*Кірмаш зубра* →3




# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


*Валя Мядзведзь піша...* → 5




http://niva.iig.pl

redakcja@niva.iig.pl

№ 32 (2934) Год LVII | Беласток, 5 жніўня 2012 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Актава ў пяты раз

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

Сёлетняга пятага ўжо Міжнароднага фестывалю музыкі, мастацтва і фальклору «Падляшская актава культур» выключна не завяршыў гала-канцэрт. Быў ён затое папярэджаны ў Беластоку мастацкімі акцыямі ў час двухдзённага здарэння «Folk on the street», у рамках якога між іншым маладыя беларусы і палякі выканалі працу на плоце гарадскога стадыёна. У час шасцідзённай «Актавы» выступілі два калектывы з Беларусі: «Баламуты» і «Шчадрыца». Сёлета не было аніводнага «тутэйшага» беларускага калектыву, а першы раз у Мастацкай радзе не засеў прадстаўнік беларускай меншасці, хаця былі ў ёй прадстаўнікі яўрэйскай, татарскай і ромскай меншасцей з Падляшша.





Стрыт-артавай працай — шматкаляровым малюнкам з беларускімі народнымі матывамі, якая ўзнікла на рагу вуліц 11 Лістапада і Звежынецкай, можна захапляцца яшчэ да верасня (калі яе, вядома, ніхто не знішчыць). Пасля будзе яна перанесена ў іншае месца; невядома, пакуль, якое. Гжэгаж Яранеўскі, адзін з задумнікаў «Folk on the street» з Ваяводскага асяродка анімацыі культуры (ВААК з'яўляецца таксама галоўным арганізатарам «Актавы»), яшчэ ў час узнікання твора сказаў «Ніве»:

— Задума на «Folk on the street» належыць нашай сяброўцы з ВААК, якая напісала магістарскую працу аб спалучэнні фальклору з мастацтвам вуліцы, аб тым, што з фолькам можна выйсці на вуліцу, можна ім інспіравацца, што ён нянудны і зачынены дзесьці ў скансэне. «Folk on the street» гэта не аднаразовая акцыя. У будучыні хочам прыцягнуць больш артыстаў і базаваць на гэтай рысе, якой з'яўляецца рэгіяналізм, у разуменні некалькіх культур нацыянальнасцей, якія пражываюць у нашым ваяводстве.

Беларускую частку стрыт-артавай карціны выканалі брэстчанін Алесь і мінчанін Жэня. Алесь:

— Графіці функцыянуе ў Беларусі гадоў дзесяць, а стрыт-арт — гады два. Для мяне прыватна важна, каб у гэтым відзе мастацтва зачапіцца аб штосьці ўласнае. У Беларусі графіці (у разуменні лозунгаў і надпісаў на мурах — М. Х.), нават калі ў ім паяўляюцца цытаты з твораў Купалы, замалёўваюць камунальныя службы.

Жэня:

— Усё адбываецца нелегальна. Каб графіці магло ўзнікнуць, трэба было б перайсці праз усю чыноўніцкую структуру, прытым без гарантыі атрымаць дазвол. Графіці трактуецца як нейкае падпольнае дзеянне, можа, апазіцыйнае.

Алесь:

— У 1999 г. я жыў у адным з найбольш крымінальных раёнаў Брэста. Падабаліся нам тыя павымалёўваныя аўтамашыны, якія прыязджаюць з Польшчы. Мы не хацелі піць піва па падваротнях. З часам ад графіці перайшоў я ў стрыт-арт. Карціна дае больш шанц на выяўленне сябе, на ўваход у дыялог. Што ад нас застанецца? Толькі культура і мова.

Жэня:

— Амерыканізаванне ў Беларусі стрыт-арту не мае толку. Адтуль тыя народныя матывы.

Алесь:

— Нашы мазгі з часам пераключыліся на фольк і так засталося. Як не паддацца красе беларускіх азёр, на якія я езджу ва ўзросце 12 гадоў.

Традыцыйна фестываль інаўгураваў парад усіх калектываў, які прайшоў ад фарнага касцёла на ратушны пляц. У час першага дня «Актавы» (24 ліпеня) на сцэне перад беластоцкай Ратушшу паявіўся ансамбль «Баламуты», у другім — «Шчадрыца». У чарговыя дні абодва калектывы выступілі агулам у чатырох мясцовасцях Падляшша.

Канстанцін Трамбіцкі — кіраўнік калектыву «Баламуты» з чатырнаццаці асоб, распавядаў «Ніве»:

— Наш калектыў неўзабаве будзе адзначаць шаснаццацігоддзе. Усе сябры ансамбля гэта студэнты кафедры народнай музыкі мінскага Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтва. Іграем і спяваем народную музыку, беларускіх кампазітараў. Выконваем аўтэнтычны фальклор. Выкарыстоўваем традыцыйныя інструменты: дуду, цымбалы ці скрыпку. Назва калектыву пакавае, што іграем бадзёрую вясёлую музыку. Баламуты развесялялі людзей па карчмах. І мы хочам развесяляць народ. Касцюмы шылі мы самі, матывы на іх — з паўднёвага рэгіёна Беларусі, недзе пры мяжы з Украінай.

Калектыў паказаўся перш за ўсё ў інструментальных выкананнях. Сярод песень можна было пачуць у іх выкананні і вядомую на Беласточчыне «Харашуху».

У сваю чаргу Дзяржаўны ансамбль песні і народнай музыкі «Шчадрыца», які дзейнічае пры адным з мінскіх дамоў культуры, узнік у 1993 г. Іх рэпертуар распавядае аб ходзе каляндарнага абрадавага цыкла. У час «Актавы» ансамбль прадставіў канцэртную праграму: песні, музыку і танцы з цэнтральнай, заходняй і паўднёвай Беларусі. Яўгенія, адна з сяброўак ансамбля, расказвала нам перад выступленнем:

— Назва нашага ансамбля ўзнікла ад зімовага звычаю, якім з'яўляецца шчодры вечар, у час якога ўсе калядуюць і жадаюць сабе ўзаемна ўсяго што найлепшае, шчодрыя адзін для аднаго. У нас разнавідная праграма. Ёсць калядны, летні, вясельны і іншыя абрадавыя цыклы. Нашы строі стылізаваныя на беларуска-палескі ўзор, з Брэсцкага раёна. Шыем іх самі. Мы на фестывалі першы раз. Калі спадабаемся, мабыць прыедзем яшчэ раз.

Сустрэты намі ў час фестывалю намеснік прэзідэнта Беластока Аляксандр Сасна адзначыў:

— Не трэба змяняць формулы. Можна яе толькі пашырыць. Гэта добра, што сюды прыходзяць такія тлумы зацікаўленых, і што рынак жыве.

Пятая «Актава» з цяжкасцю паказвала сэнс, які спадарожнічаў яе ўзнікненню, а таксама так лагатып, як і назва ўжо не адпавядаюць першапачатковым задумкам. Гэта ўжо не тая імпрэза, якая прадстаўляе восем культур нацыянальнасцей, пражываючых на Падляшшы, найчасцей крыху адменных ад культур асацыяваных арганізатарамі з меншасцямі. Прытым, цяжка пад так разуметую «Актаву» падключыць сёлетнія выступаючыя калектывы, напрыклад з Сербіі, Грузіі, эквадорскі з Іспаніі (на фестываль прыбыў нават пасол Эквадора) ці Францыі. Затое першы раз «лакальнае» пустое месца запоўніў калектыў стараабрадцаў «Рябіна» з Бору непадалёк Аўгустова, дзе шэсць жанчын спявае песні на дыялекце падобным на ноўгарадска-пскоўскі. У сваю чаргу дырэктар фестывалю, а задно шэф ВААК Анджэй Дырдал, якога мы распытвалі пра тое, чаму ў Мастацкай радзе няма прадстаўніка беларускай меншасці (дасюль быў у ёй Ігар Лукашук; у МР засядала затое Яўгенія Гарбунова, прафесарка коледжа пры Музычнай акадэміі ў Мінску), адказаў:

— Мы яго не запрашалі. Чаму вы, журналісты, надалей лічыце, што «Актава» гэта фестываль меншасцей?

Яшчэ ў час прэс-канферэнцыі папярэджваючай сёлетні выпуск «Актавы» дырэктар Дырдал заявіў:

— Беларусам на Падляшшы і так дастаткова іхніх імпрэз.

Калі гаворка пра формулу гэтага мерапрыемства, дык ахарактарызаваць яе можа агаворка падляшскага віцэ-ваяводы Войцеха Дзяжгоўскага ў час яе інаўгурацыі:

— «Актавы культур» лічу адкрытымі.

Дарэчы, шмат асоб наракала на агучэнне канцэртаў, нават на фэйсбуку. Праблемы з чутнасцю гуку паявіліся асабліва ад боку праходу, спалучаючага вуліцы Ліпавую з Суражскай. Віцэ-дырэктар ВААК Цэзары Мелька патлумачыў нам:

— Большасць гледачоў гэта пажылыя асобы і маглі б не перанесці загучнай музыкі.





# Прапаганда ў дзеянні

Нядаўна прачытаў я на фэйсбуку паведамленне майго знаёмага. Ён напісаў, што стаў сведкам размовы японскіх журналістаў з нашымі бабулькамі на адным мінскім прыпынку. Размова адбылася на Плошчы Перамогі.

— Скажыце, а што гэта за плошча, і што яна для вас значыць? — ветліва і са шчырай цікавасцю спыталіся японцы.

— Гэта наша Плошча Перамогі, так названая ў гонар нашай перамогі над фашыстамі, — не без гонару ў словах праінфармавалі гасцей сталічныя жыхаркі. І дадалі: — Беларускі народ адзін перамог фашыстаў, і за гэта мае такі помнік. Мы самыя змагаліся з фашызмам, і нам ніхто не дапамагаў. І беларусы адны перамаглі ў гэтай вайне з нямецкімі захопнікамі.

У японцаў вочы сталі як еўрапейскія, толькі яшчэ большыя і круглейшыя, але хіба з-за ўласцівай для іх сціпласці яны нічога аспрэчваць не сталі. Затое бабкі ў сваю чаргу праявілі цікавасць да гасцей:

— Скажыце, а вы скуль будзеце?

— Мы з Японіі, — адказваюць тыя.

— З Японіі, — спачувальна заківалі галовамі бабулькі. — Мы вельмі шкадуем японскі народ. Вы таксама вельмі пацярпелі падчас той вайны. На вашу маленькую краіну напалі Злучаныя Штаты Амерыкі і кінулі на Хірасіму і Нагасакі атамныя бомбы. Вы такія ж ахвяры агрэсіі, як і мы, беларусы.

Вось так, не больш і не менш. Два эпізоды вайны з удзелам у ёй Беларусі, Японіі, Нямеччыны і ЗША. Вось так, ні кроплі не сумняваючыся ў сваёй праваце, ахарактарызавалі гэтыя эпізоды некалькі мінскіх бабулек. Аказваецца не толькі на нас, беларусаў, але і на японцаў напалі агрэсары — на нас немцы, на японцаў амерыканцы. Мой знаёмы, які выклаў гэтую размову на фэйсбук, вельмі трапна назваў яе — „прапаганда ў дзеянні".

Зараз на беларускім і на распаўсюджаным у Беларусі расійскім тэлебачанні мы вельмі часта можам бачыць дыскусію пра тое, што нехта з Захаду пачаў перапісваць гісторыю ў цэлым, і гісторыю Другой сусветнай вайны ў прыватнасці. І што трэба прыкласці ўсе намаганні, каб не даць перарабіць усталяваную яшчэ падчас СССР версію гэтых страшных падзей. Ды вось незразумелы аспект — бабулькі выказалі зусім не савецкую трактоўку, ну і яўна не заходнюю. Цікава, дзе яны яе ўзялі. Бо напэўна навучаліся яны ў маладосці па савецкіх падручніках, выхоўваліся на савецкіх кінастужках і іншых матэрыялах, якія тады жорстка ўніфікаваліся. Некалькіх версій вайны тады не было і быць не магло.

Пасля ж развалу Савецкага Саюза ў іх была магчымасць пашырыць свае веды пра гэтую вайну, сутыкнуўшыся з кінематографам Захаду. Толькі вось анідзе, ні ў савецкай гістарыяграфіі, ні ў заходняй, ЗША не фігуравалі ў вобразе агрэсара, які напаў на маленькую Японію. Ну і што беларусам ніхто не дапамагаў у змаганні з фашыстамі таксама анідзе не сцвярджалася.

Дык хто ж падкінуў бабкам гэтую версію?! І што самае цікавае, такой трактоўкі тых ваенных падзей ніхто ніколі не агучваў. Напэўна гэта гісторыя нарэшце вечнай агрэсіўнасці ЗША, якая ў Беларусі падмацоўваецца таксама расійскімі тэлеканаламі, зрабіла сваю справу. Пасля такой прапаганды цяжка паверыць, што не ЗША, а Японія магла распачаць вайну.

Ну а беларусы мусяць адны змагацца з усім светам. Бо калі верыць існай на сёння прапагандзе, гэта тут у нас невялічкі астравок нармальнасці. А вакол толькі і пазіраюць, як больш балюча нас укусіць.

І не трэба перапісваць аніякай гісторыі. Пад уплывам штодзённай прапаганды многія яе самі пачынаюць перапісваць у сваёй псіхіцы і несвядома пасля пераносяць такі светапогляд на ўсё сваё ўспрыманне сусвету. І паўсюдна бачаць ворагаў, і звонку, і ўсярэдзіне.

Толькі вось ці можна зазамбаваць да ўзроўню светапогляду Паўночнай Карэі або Кубы цэлы народ, які існуе ў цэнтры Еўропы ў час развітага інтэрнэту? І ці не спалохаюцца тыя, хто адказвае за ідэалогію, што і іх уласныя дзеці таксама могуць патрапіць пад плён іх руплівай працы. А можа пойдуць нават далей ды пачнуць шукаць ворагаў і ў шэрагах сваіх жа бацькоў. Так жа ўжо было ў нашай непераробленай гісторыі. Ды і не так даўно было, каб не памятаць.

Віктар САЗОНАЎ



# Скіслая палітыка

А што ў Бабруйску? Тым пытаннем, прыгадаю, кончыў я папярэдні свой допіс, у якім успомніў аб страйку на тамашнім трактарным заводзе. Яго работнікі, раззлаваныя непрадказаным скарачэннем зарплаты, заявілі, што будуць пратэставаць аж да слушнай перамогі. Перамога значыла для іх вяртанне папярэдніх і да таго амаль галодных заробкаў, якія дырэкцыя завода, невядома з якой прычыны, скараціла ім на 50 працэнтаў. Інакш гаворачы, застрайкавалі таму, што не хацелі сыта наядацца праслаўтай паўбуханкай хлеба. І без акрасы. Толькі што тое, што праслаўтае для страўніка, зусім няўежнае. Ды і на гэта ёсць рада. Страўнікі можна скараціць напалову. Бяда ў тым, што гастрычны аддзел бабруйскай бальніцы не зафіксаваў скокавага росту ліку пацыентаў, паддаючыхся дабравольнай рэсекцыі часткі гэтага органа. Значыцца, у Бабруйску ўпёрліся: ці галадаць, ці страйкаваць? Як бы там не было, дырэкцыя трактарнай фабрыкі мае гэта ў носе. Сваё ўжо зрабіла. Ходзяць чуткі, што, паддалася яна ў той жа бальніцы калектыўнаму вылусканню мазгавых паўшар'яў. Або пачалі яны ёй падгніваць па прычыне знікнення працэсаў думання, або ў такім бардаку, які цяпер у Беларусі, не ўдасца спраўна кіраваць цэлай галавою.

Невядома, ці страйк на бабруйскай фабрыцы вынікаў толькі з бяздумнага рашэння яе дырэкцыі. Гэтае пытанне ставяць заўзятары ўсялякіх змоў. Паводле іх, скарачэнне рабочых зарплат з'яўляецца самым жорсткім і заадно найпрасцейшым спосабам балансавання айчынных попыту і прапановы, што вядзе да хуткай ліквідацыі інфляцыйнай гангрэны. Такое прасцяцкае дзеянне было б згодным з псіхікай Аляксандра Лукашэнкі, які ж абяцаў народу вярнуць эканоміку краіны да ўзроўню да 2009 года — калі ў Беларусі цешыліся адносным дабрабытам. Паколькі не робіць ён аднак нічога на цяп-ляп, рашыў пратэсціраваць узровень адчаю працаўнікоў у абароне права на годнае жыццё. Трапіла на трактарны завод у Бабруйску. Калі б рабочы супраціў удалося лёгка і паціху пацыфікаваць, рэзкія скарачэнні зарплат ахапілі б усю краіну. Такую, вось, выдумалі тэорыю... „змоўшчыкі".

Толькі што ўся краіна патрабуе павелічэння зарплат. На працягу апошніх трох гадоў цэны на асноўныя харчовыя прадукты выраслі ў Беларусі ў сярэднім на 30 працэнтаў. Адначасова сярэдняя зарплата панізілася з 500 да 360 долараў, а ў тым часе гаспадарка перажыла дзве дэвальвацыі рубля. Яго курс да долара ЗША ўпаў на каля 3 тысячы ў 2009 г. да больш за 8 тысяч сёлета. Тым часам мінулагодняя інфляцыя склала 108,7 працэнта. І гэтай гідры Лукашэнка абяцаў скрунуць карак да канца 2012 года. — Мы паставілі заданне: 19-20 прац. інфляцыі. Думаем аб 13-15 працэнтах. Тык было б лепш! — уладна прадбачыў.

Пытаюся, аднак, для каго лепш? Ці на працягу пару месяцаў можна здушыць больш за стопрацэнтную інфляцыю да 13%? А калі нават і так, дык гэта было б звычайным жульніцтвам, не лічыўшымся з чалавечай пакутай. У Беларусі, даведзенай дамарослым уладараннем да падарчай нэндзы, гэта ў выніку дало б паўсюдныя галодныя страйкі. А гэтыя перараджаюцца ў крывавыя рэвалюцыі, як даказвае прыклад васемнаццацівечнай Францыі. Шчасцем у гэтым беларускім няшчасці з'яўляецца тое, што Лукашэнка любіць стрымліваць абяцанні. Як памятаем, нядаўна абяцаў землякам, што памучыць іх яшчэ дзвaццаць гадоў. У ніякім выпадку гэта яму не ўдасца, калі дазволіць на скарачэнні зарплат. Дарэчы, востра супрацівіліся ім рабочыя ў Бабруйску, у гродзенскіх «Гроднажылстрою» ці «Азоце», а яшчэ і завода жалезабетонных вырабаў у Мікашэвічах. Усюды застрайкавалі. І горш таго, страйкуючыя патрабавалі... павелічэння даходаў. І, горш таго, атрымалі іх.

Павелічэнні зарплат гэта вось другое лязо мяча, які павіс над беларускай гаспадаркай — мяча Дамокла. Сапраўды, вісіць ён на тонкай нітачцы. Яшчэ крыху, і сарвецца. Хопіць, што Расія адсуне ад Беларусі вымя поўнае малака гушчыні скіслай нафты. У час глабальнага крызісу свет не хоча купляць нафты. А карову трэба ж карміць. Сакавітыя лугі Беларусі гэта для яе не абы-што. Ужо працягвае да іх сваю засліненую пысу. А калі пысу, дык і свой другі, не тут казаўшы, бок. Ну і хто будзе прыбіраць пасля яе? Бо за мяжу дык яе прагнаць не ўдасца!

Міраслаў ГРЫКА

Вачыма еўрапейца

# Загублены абвінавачаны



Выбраўся я два тыдні таму на чарговы разбор перад беластоцкім Акруговым судом у справе чатырох мужчын, якім больш за дваццаць гадоў, абвінавачаных у публічным распаўсюджванні фашысцкіх ідэй і закліках да нянавісці на нацыянальнай і канфесійнай глебе. Гаворка пра тое, што ў 2007 г. м.інш. на яўрэйскім могільніку, помніках ахвярам гета, табліцах увекавечваючых Людвіка Заменгофа ў Беластоку паявіліся свастыкі, надпісы „SS" і антыяўрэйскія лозунгі. У сувязі з гэтай справай яшчэ ў 2007 г. затрымалі каля дваццаці віноўнікаў у большасці непаўналетніх, якіх справы трапілі ў суд па справах непаўналетніх. Чатырох паўналетніх пакаралі ўмоўным прысудам. У Акруговым судзе, а пасля ў Апеляцыйным, суддзі вырашылі, што гэта не былі дзеянні ў злачыннай групе, а так меркавала пракуратура. Касацыю, датычную гэтага матыву, падала ў Вярхоўны суд прыватная асоба — дапаможны абвінаваўца. Гэты суд загадаў абмеркаваць справу яшчэ раз і пераанaлізаваць доказы з гэтага пункту. За доказ удзелу ў злачыннай групе пакаранне было б больш суровае і даходзіла б нават да пяці гадоў турмы. У маі гэтага года справа вярнулася ў Акруговы суд. У той час не ўдалося выслухаць сведкаў (абвінавачаныя не прызналіся да абвінавачанняў і адмовіліся даваць паказанні). Немагчыма было высветліць ці дзейнічаючая сяруд скінгедаў, якімі былі абвінавачаныя, група пад назвай „VI Edycja" стаяла за здзяйсненнем злачынстваў з 2007 года. У час апошняга разбору таксама не паявіўся ні адзін з трох пакліканых сведкаў. Старшыня судзейскага складу Славамір Валосік тлумачыў, што два з іх прабываюць за мяжой пад невядомым адрасам. Трэці прыслаў у суд просьбу дапытаць яго ў месцы прабывання, значыць, перад судом у Кракаве. Адначасова не падаў ён дакладнага, актуальнага месца пражывання. Суд таго тлумачэння не ўлічыў. Усе сведкі маюць у наступны раз, значыць на разбор 24 жніўня, быць прыведзены паліцыяй. Цікава, як гэта адбудзецца ў выпадку прабываючых за мяжой пад невядомым адрасам?

На разборы не паявіліся таксама ўсе абвінавачаныя. Аднаго давялі з арышту, дзе прабывае за іншыя злачынствы. І хаця апошнія абвінавачаныя ў судовым калідоры рабілі ўражанне, што невядомы адны аднаму, той — з татуіроўкай над віскомь „172" — уваходзячы на залу разбораў прывітаўся „па-сяброўску" з апошнімі. Калі суддзя Валосік не мог далічыцца аднаго з абвінавачаных, абаронца заявіў:

— Я бачыў яго жонку ў арышце, перад пакоем наведванняў. Магу меркаваць, што абвінавачаны там прабывае.

Пасля пятнаццаціхвіліннага перапынку старшыня складу вызначыў, што „загублены" фактычна цяпер у арышце, ды ў гэты дзень паліцыя не ў змозе давесці яго ў суд па вуліцы Складоўскай з арышту па вуліцы Каперніка (пяць хвілін дарогі на аўто). Ад іншага з абвінавачаных суд патрабаваў тлумачэнняў, чаму не з'яўляецца на заклікі паліцыі, пад дазорам якой знаходзіцца. Судзейскі склад пачуў:

— Я з'явіўся ў паліцыі. Мне сказалі, што не ведаюць нічога аб тым, каб я мусіў з'яўляцца. Дык я і не з'яўляўся.

З беластоцкага II Камісарыята паліцыі суд атрымаў ліст, што абвінавачанага заклікаюць да яўкі, ды без поспеху. Канчаткова суддзя заклікаў абвінавачанага з'яўляцца ў паліцыі.

Гэтая справа амаль выключэнне, калі гаворка пра разборы, датычныя рознага тыпу актаў расісцкага ці нацыянальнага тыпу на Падляшшы за мінулыя гады. Пракуратура яшчэ накіравала ў суд справы маладых людзей, якія мелі намаляваць надпісы з фашысцкім зместам на будынках у Крынках, а ў апошні час у справе выкрывання лозунгаў нацысцкага зместу ў час мінулагодняга „Маршу адзінства" ў Беластоку. У іншых злачынцы — пакуль — не выяўлены.

Мацей ХАЛАДОЎСКІ

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# Кірмаш зубра ў Гайнаўцы



Сёлетні VI Кірмаш зубра, наладжаны 15 ліпеня ў Гайнаўцы, быў вельмі багатым як па колькасці прэзентаванага мастацтва і рукадзелля, так і па разнароднасці музычных прапаноў на сцэне гарадскога амфітэатра і ў гарадскім парку, дзе свае вырабы прэзентавалі і прадавалі больш за 70 творцаў. Прыехалі яны перш за ўсё з Гайнаўшчыны, але таксама і з іншых рэгіёнаў Падляшша і з-па-за нашага рэгіёна. Былі таксама госці з Рэспублікі Беларусь — з Пружанскага і Свіслацкага раёнаў ды Брэста, а трох выканаўцаў прыехала з Украіны. Творцы не разлічвалі на вялікую продаж сваіх вырабаў, але на прэзентацыю свайго рукадзелля, якая робіць іх больш вядомымі.

— У гэтым годзе мы ладзім Кірмаш за свае сродкі. Народныя творцы месца для продажу сваіх вырабаў атрымаюць бясплатна, а для некаторых рамеснікаў нават заплацім за прэзентацыю іх даўніх рамёстваў, напрыклад, для кавалёў, якія не будуць прадаваць сваіх вырабаў. Толькі прадаўцы ласункаў і цацак плацяць невялікія грошы за магчымасць продажу сваіх вырабаў, — сказаў Расціслаў Кунцэвіч, дырэктар Гайнаўскага дома культуры, які разам з бурмістрам Гайнаўкі ца вашая гасціннасць і публіка, якая так цёпла ўспрымае нашыя выступы. Хаця сёння ў Пружанах святкуюць Дзень горада, нашыя калектывы раздзяліліся і частка прыехала ў Гайнаўку, — сказаў Васіль Пілюцік, музычны кіраўнік Тэатра танца «Ойра» (пружанскія артысты паказалі народныя танцы, якія перапляталіся з аўтарскімі песнямі, спяванымі «Ліцвінамі» на народны манер). — Народныя танцы *полька*, ці *абэрак* у агульным лічацца польскімі танцамі, але ў нашым рэгіёне захаваліся іх асаблівасці, якія дазваляюць іх назваць так- наведвальнікі найчасцей купляюць танныя сувеніры. Людзі, якім спадабаюцца мае карціны, могуць прыехаць у Старое Беразова і купіць іх. Адным падабаюцца кветкі, іншым краявіды, а яшчэ іншым архітэктура. Найчасцей купляюць карціны на падарункі, бо я малюю на салідным палатне сваёй работы і даю акуратныя рамкі. Лепш жа падарыць сапраўдную карціну, чым рэпрадукцыю на фанеры, купленую ў магазіне, — стаў расказваць Мікола Яноўскі.

Побач яго вырабы з саломы, кошычкі, кветачкі і іншае рукадзелле прада- вала ў Расіі. Зроблена яно паводле спецыяльных узораў, якім я вучылася на інтэрнэтных курсах па выконванні царкоўных узораў, які быў арганізаваны ў Пецярбургу. Аднак ёсць у мяне таксама многа таннейшых сувеніраў, якія прадаю на інтэрнэтных аўкцыёнах. Заўважальную частку майго рукадзелля адпраўляю ў ЗША, Францыю, — заявіла Людміла Карпюк.

Вырабы выкананыя кручком прадавала Яніна Плева з Гайнаўкі, родам з Хітрай. Прэзентавала яна фіранкі, абрусы і сурвэткі.

— Цяпер моднымі сталі фіранкі выкананыя кручком. Падобныя, выкананыя на машынах, не замесцяць ручной работы. Знатакі справы купляюць менавіта ручныя карункавыя фіранкі, хаця яны і даражэйшыя ад тых выкананых на машынах, — удакладніла Яніна Плева.

Вырабы, зробленыя кручком, прэзентавала таксама Галіна Бірыцкая з Плянты. Паказала яна многа вышываных работ, напрыклад, ікону, падушкі. Многа вышываных вырабаў паказалі Тамара Негерыш і Тамара Грышко з Брэсцкага клуба «Творчасць», якія на Кірмаш прыехалі другі раз, але свае вырабы прэзентавалі ўжо на выстаўках у Беларускім музеі ў Гайнаўцы.

— Мы прыязджаем, каб паказаць нашую вышыўку і пабыць на мерапрыемствах у Гайнаўцы, дзе добрая атмасфера і дзе вельмі добра прымаюць нас добрыя людзі, — сказалі жанчыны з Брэста, якія таксама прывозяць гайнавянам ручнікі



Вышываныя вырабы прэзентавалі Тамара Негерыш і Тамара Грышко з Брэсцкага клуба «Творчасць»



Марыя Пракапюк паказвала як калісь ткалі на кроснах

з'яўляецца арганізатарам мерапрыемства.

Паколькі зубры жывуць у Польшчы і Беларусі ў пушчы, Белавежскі нацыянальны парк і Гайнаўскае надлясніцтва наладзілі для дзетак і дарослых цікавыя конкурсы пра зуброў і іншыя гульні на сцэне амфітэатра і ў гарадскім парку. Мерапрыемства ўдастоілі самаўрадаўцы, між іншым, бурмістр Гайнаўкі Юры Сірак, папярэдні бурмістр Анатоль Ахрыцюк, віцэ-стараста Андрэй Скепка, ваяводскі радны Мікола Яноўскі. Сярод публікі пераважалі гайнавяне і жыхары навакольных сёл, якія прыехалі на кірмаш па пакупкі і на канцэрт у выкананні беларускіх калектываў — «Чыжавян», ляўкоўскіх «Цаглінак» і пружанскай «Забавы». Народнае рукадзелле прэзентавала многа таленавітых беларускіх творцаў. Іншыя беларускія музычныя калектывы — Тэатр танца «Ойра» Пружанскага палаца культуры і калектыў «Ліцвіны» Вясковага дома культуры ў Калядзічах Пружанскага раёна — выступілі на сцэне амфітэатра разам з польскімі калектывамі ў асобнай праграме. Цікавымі былі таксама выступы калектываў з ГДК і гасцей з Польшчы.

— Мы ўжо чарговы раз прыязджаем на Кірмаш зубра. Нам вельмі падабаецсама беларускімі народнымі танцамі.

— Нашае мерапрыемства можна ўжо таксама назваць сямейным святам, паколькі сюды прыходзяць і прыязджаюць цэлыя сем'і з Гайнаўкі і наваколля. Слухаюць яны музыку, купляюць рукадзелле на сувеніры або сабе, а дзеткі прымаюць удзел у конкурсах і наведваюць гарадок гульняў, дзе частка прапаноў бясплатная, — пералічваў дырэктар Расціслаў Кунцэвіч.

Дзеткі ахвотна карысталіся каруселлю, з'язджалі з горкі, гулялі на мячыках, карысталіся іншымі атракцыёнамі і хацелі, каб купіць ім цацкі або ласункі. Мабыць, частка малодшых гайнавян прыходзіць з дзеткамі на кірмаш якраз з-за гарадка гульняў, а іх бацькі пры нагодзе слухаюць беларускія песні, глядзяць на танцы і рукадзелле.

На сваёй машыне дабраўся ў Гайнаўку народны мастак Анатоль Краўчук з Крывой, які часта прэзентуе свае карціны ў Студзіводскім музеі. Дапамагаў яму размясціць карціны жывапісец са Старога Беразова Мікола Яноўскі, які традыцыйна прэзентаваў свае алейныя карціны ў спецыяльна расстаўленай палатцы.

— Складана тут прадаць карціны, бо вала Раіса Баюра з Засімавіч Пружанскага раёна. Традыцыйныя вырабы з саломы прэзентавалі Пётр Леанюк з Руткі і Яўгенія Кандрацюк з Гайнаўкі, якая дэманстравала прыёмы працы з саломай.

— Яшчэ да нядаўна я прадаваў свае саламяныя вырабы оптам, але слаба плацілі. Рашыўся тады прадаваць саламяныя шкатулкі, каробкі, талеркі турыстам. Калі за нейкую штучку пасрэднік даваў мне 10 злотых, то цяпер прадаю яе за 20-30 злотых і пасрэднікаў прыбытак застаецца мне. Ведаю, што многа не прадам, але лепшыя пару яек, чым міска бульбы, — заявіў Пётр Леанюк з Руткі.

Марыя Пракапюк з Гайнаўкі, якая перасялілася сюды з Новага Корніна, паказвала як калісь ткалі на кроснах. Побач прадаваліся тканыя капы і накідкі на мяккія крэслы, якія яшчэ гадоў дваццаць-трыццаць назад былі моднымі на нашых вёсках. Бацькі куплялі іх сваім дочкам, калі тыя мелі выходзіць замуж. Каля тканых вырабаў многа цікавых прадметаў прапанавала Людміла Карпюк з Дубіч-Асочных. Былі там каралі, міні-сурвэткі і іншыя аздабленні, якімі маглі пацікавіцца як маладыя, так і старэйшыя.

— Гэтае сімвалічнае яйка дарагое, бо матэрыялы для яго выканання я заказці кашулі з народнай вышыўкай на заказ. — Для народнай вышыўкі бярэм мы ўзоры ў вясковых бабуль з нашага рэгіёна або з вельмі даўніх народных вырабаў, якія з-за знішчэння нельга ўжо паказваць. Аднак старыя ўзоры, якім нават больш за сто гадоў, можна яшчэ захаваць на новых вырабах. Зацікаўленнем карыстаецца таксама вышыўка з сучаснымі ўзорамі.

У час кірмашу вялікі зубр (пераапрануты чалавек) раздаваў дзеткам цукеркі. Невялікімі зубрыкамі былі прыаздоблены парк і амфітэатр. Вялікі зубр на ўзвышшэнні стаіць у парку, побач магістрата. Нядаўна на акраіне парку, каля дарогі ў амфітэатр, паставілі зубра, выкананага з жывых раслінак, якія хутка зазеляніліся. Народныя рамеснікі Гайнаўшчыны прадаюць турыстам зубрыкі, выкананыя рознай тэхнікай. Гайнаўскія зубры наогул падабаюцца мясцовым і прыезджым. Можа добра было б у гайнаўскім гербе змясціць зубра, які замясціў бы пілу — сімвал дрэваапрацоўчага характару прамысловасці прыпушчанскага горада. Але аб гэтым могуць канчаткова вырашыць толькі гайнаўскія радныя, якія таксама ўдзельнічалі ў Кірмашы зубра.

## Харашчанская дэмаграфія

Харашчанская гміна (Беластоцкі павет) налічвае 37 мясцовасцей, у якіх пражывае 13 846 чалавек — у тым ліку 6877 мужчын і 6969 жанчын. Найбольш населенай з'ўляецца Харошча — 5562 чалавек (2719 мужчын і 2843 жанчыны). Іншыя вялікія вёскі гэта Клепачы — 1523, Златорыя — 904, Крупнікі — 564, Парослае — 501, Баршчэва — 444, Жулткі — 367, Лыскі — 364, Панькі — 352, Ізбішча — 308, Парослае-Калёнія — 253, Олішкі — 230, Рогава — 223, Дзікае — 167, Канавалы — 162, Сянкевічы — 159, Сліўна — 151 і Зачарляны — 147.

Малыя вёскі гэта Рагувак — 82 жыхары, Агароднікі — 81, Яронікі — 80, Жулткі-Калёнія — 57, Рогава-Маёнтак — 53 і Турчын — 20.

Па колькасці мужчыны пераважаюць у 18 вёсках, а жанчыны ў 15. Пароўну адных і другіх у Рагуўку (па 41). Значна больш жанчын пражывае ў Харошчы, Баршчэве, Лысках, Дзіках, Сянкевічах і ў Жултках.

Прыйдзецца забраць дошкі з назвай паселішча ў Гаёўніках-Калёніі, Калёніі-Чапліна, Зачарлянах-Калёніі і ў Златорыі-Цагельні. У іх ужо ніхто не пражывае.

У першым паўгоддзі 2012 года ў ЗАГСе ў Харошчы зарэгістравалі 68 нараджэнняў і 73 пахаванні. Значыць, гміна знаходзіцца на дэмаграфічным мінусе.

## Вясковыя святліцы

Улады Нараўчанскай гміны клапоцяцца пра вясковыя святліцы. Некаторыя з г.зв. дамоў культуры маюць прыгожыя і прасторныя залы, камінкі, столікі, крэслы, тэлевізары і іншае клубнае абсталяванне, малыя кухні і кухонную пасуду, а таксама туалеты.

Асабліва прыгожыя святліцы ў Нараўцы, Старым Ляўкове, Плянце і Семяноўцы. Зараз адрамантавалі іх у Старым Масеве, Ахрымах і Гушчэвіне. Добрыя ўмовы мае святліца ў Міклашэве. Яна прасторная, у ёй многа акон, новыя дзверы і г.д.

Цяпер рамантуюць святліцу ў Альхоўцы, а пасля будуць рамантаваць у Тарнопалі. **(яц)**

## Лёс сучаснай цывілізацыі

30 чэрвеня ў сядзібе Таварыства беларускай культуры ў Вільні адбылася чарговая традыцыйная імпрэза. Тым разам гэта была лекцыя-дыскусія „Вавілонская вежа нумар Х?”. З паведамленнем выступіў мастак і літаратар Алег Аблажэй. Ён заклікаў прысутных паразважаць пра лёс сучаснай цывілізацыі: куды яна рухаецца, ці можа яе напаткаць лёс многіх папярэднiх — егіпецкай, рымскай? Што трэба рабіць і як сябе паводзіць перад абліччам шматлікіх праблем, як не разгубіцца і не страціць сябе? Якое месца Беларусі ў сучасным свеце, як на яе лёсе адбіваюцца глабальныя праблемы?

Аўтар пераконваў прысутных, што, каб не страціць сябе, трэба будаваць свой уласны, прыватны незалежны свет, у якім можна карыстацца ўсімі даступнымі набыткамі сучаснай цывілізацыі, не паддаючыся яе спакусам і фальшывым вартасцям.

Тэмы — актуальныя для кожнага неабыякавага чалавека, а сама гутарка вартая працягу... **К. Барсучок**

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# Войт Гайнаўскай гміны: „Беларускі фэст для нас важны”



**На беларускі фэст, наладжаны 15 ліпеня ў Новым Корніне, прыбыло многа людзей. Публіка шчыльна запоўніла прышкольную плошчу, а дазныя дарогі з абодвух бакоў былі застаўлены вялікай колькасцю легкавых аўтамабіляў. Нагодай для фэсту было асвячэнне адрамантаванай вясковай святліцы. Канцэрт беларускіх песень папярэдзілі спаборніцтвы пажарнікаў. Выйгралі мужчыны з Махнатага, а другое месца занялі пажарнікі з Новага Корніна, якія яшчэ паўтара тыдня назад змагаліся з вельмі адмоўнымі паслядоўнасцямі велізаранай буры, праліўнога дажджу і ветраломам.**

У цэнтры войт Вольга Рыгаровіч

Пасля літургіі ва Узвазнясенскай царкве ў Новым Беразове настаяцель прыхода протаіерэй Іаан Казімірук асвяціў святліцу ў Новым Корніне. Ва ўрачыстасці ўдзельнічалі войт Гайнаўскай гміны Вольга Рыгаровіч, шматлікія пажарнікі і жыхары вёскі.

— На рамонт святліцы ў Новым Корніне атрымалі мы каля 20 тысяч злотых еўрасаюзных сродкаў праз пасрэдніцтва Мясцовай групы дзейнасці. У нашай гміне так прынята, што калі здаем у карыстанне адрамантаваныя вясковыя святліцы, ладзім беларускія фэсты. Суарганізатарам сённяшняга мерапрыемства з'яўляецца БГКТ. Многа дапамагаюць гмінныя працаўнікі, дырэктар мясцовай школы, падтрымку аказвае мясцовае насельніцтва. Беларускі фэст для нас важны, бо замацоўвае беларускую мову, беларускую культуру і беларускасць на нашай тэрыторыі. Мы рады, што ў нашай гміне, у Махнатым, паўстаў і дзейнічае беларускі калектыў, якому ў гэтым годзе будзем прысвойваць імя, — сказала войт Гайнаўскай гміны Вольга Рыгаровіч.

Фэст удастоілі консул РБ у Беластоку Таццяна Нікалаёнак, госці з Беларусі, ваяводскія радныя Мікола Яноўскі і Ян Сычэўскі (ён заадно і старшыня ГП БГКТ), протаіерэй Іаан Казімірук з Новага Беразова і дырэктар школы ў Новым Корніне Ева Мароз.

— Тут вельмі файная імпрэза, людзі паспяваюць і ўспомняць як калісь у нас жылося. Апрача падтрымлівання роднага слова адбываецца інтэграцыя мясцовага насельніцтва. Бачу тут прыхаджан з Дубіч-Асочных, Хітрай, Старога Беразова, жыхароў Махнатага і іншых вёсак, — сказаў айцец Іаан Казімірук, гледзячы на сабраных.

— Важна, што надвор'е спрыяльнае і людзей многа сабралася. Мы апасаліся, што дождж або бура можа разагнаць мерапрыемства, — дадала дырэктар новакарнянскай школы Ева Мароз. — Важна таксама, што нашая школа яшчэ жыве. У мінулым годзе вучылася ў нас 53 дзетак.

На беларускім фэсце ў Новым Корніне ўдала выступілі вакальны калектыў з Махнатага, Ева Іванюк з Гайнаўкі, калектывы „Каласкі”, „Калінка” і „Крыніца” з Беластока, „Арт-Пронар” з Нарвы, „Купалінка” з Мінска і „Прымакі” з Міхалова. Усе выступленні былі цікавымі, але найбольш публіку разварушылі вакальна-інструментальныя калектывы з Нарвы, Мінска і Міхалова. „Прымакі”, згодна сваёй манеры, удала наладзілі эмацыянальна-слоўную сувязь з публікай і спрычыніліся да таго, што пад іх песні маладыя нават пачалі танцаваць. „Купалінка” ўразіла публіку высокім прафесійным узроўнем песень. Вядучая мерапрыемства Марыёля Герман паведаміла, што славутая „Купалінка” многа разоў выступала ўжо ў Польшчы, а таксама гастралявала ў многіх краінах Заходняй Еўропы, у Канадзе і Японіі.

— Нашая фальклорная група „Купалінка” Беларускай дзяржаўнай філармоніі з Мінска прыязджае ў Польшчу недзе ад 25 гадоў і Беласток нам як родны горад. Спяваем мы апрацаваныя і аўтэнтычныя народныя песні, а таксама аўтарскія творы, напрыклад, на вершы Купалы, Коласа, Багдановіча. У нашых праграмах ёсць таксама многа вакальна-харэаграфічных кампазіцый. Сёння мы выступім з вакальна-танцавальным шоў, — гаварыла Людміла Ярох, адна са спявачак „Купалінкі”.

Пасля шоў публіка моцна апладзіравала і выклікала мінскіх артыстаў на біс.

— Апошні вялікі музычны фэст наладжаны быў у нас у 1998 годзе і можа таму людзі так масава прыбылі на сённяшняе мерапрыемства. Мы не разлічвалі ажно на так вялікую публіку, — сказала солтыс Новага Корніна Аліна Варанецкая.

Солтыс паведаміла таксама, што зараз да добраахвотнай пажарнай каманды ў Корніне належыць ажно 37 асоб і таму яе дзейнасць вылучаецца не толькі ў Гайнаўскай гміне. Мае суразмоўцы ўдакладнілі, што нават у час ранейшых спаборніцтваў добраахвотнікі з Новага Корніна перамаглі малодшых ад іх пажарнікаў з Махнатага. Аднак маладыя людзі з гэтага сяла выехалі ў гарады і вёска стала пусцець, так як і суседнія сёлы. Калі, едучы на мерапрыемства, уехаў я ў Новае Корніна, сапраўды паказалася мне яно крыху апусцелым. Вёска расцягнутая на некалькі кіламетраў. Да сённяшняга выгляду Корніна ў вялікай ступені спрычынілася ліквідацыя цераспалосіцы ў міжваенны перыяд, калі гаспадарам прапанавалася пасяліцца паблізу надзеленых ім палёў. Зараз хаты жыхароў вёскі раскінуты ў напрамку Курашава, Трывежы і Новага Беразова, а паміж часткай сядзіб, распалажаных па асноўнай вуліцы, знаходзяцца лугі і ворыва. Раней зручна было пасвіць там кароў і авечак. Цяпер жывёлагадоўля скарачаецца, пагражае ліквідацыя пункту прыёму малака.

— Нашы гаспадары пастаўляюць яшчэ каля 450 літраў малака ў суткі. Збіраемся ехаць у Малочны кааператыў у Гайнаўку і прасіць, каб хаця да зімы, а то і даўжэй, дазволілі працаваць у нас пункту прыёму малака. Калі будзе ён ліквідаваны, можа быць так, як было ў Новым Беразове. Там толькі некалькі гаспадароў стала давозіць малако ў Чыжыкі, а іншыя прадалі кароў (ад буйных жывёлаводаў у Беразове малако забіраюць аўтацыстэрнамі з панадворка — А. М.), — сказала солтыс Аліна Варанецкая.

Вёску выратоўвае яшчэ блізкасць ад Гайнаўкі. Апошнім часам рашаюцца тут жыць маладыя сем'і або выхадцы з сяла, якія рамантуюць свае хаты. Надалей дзетак у школьным узросце ў Корніне і навакольных вёсках мала. Аднак Падставовая школа ў Корніне мае свае козыры: добрае супрацоўніцтва з бацькамі і актыўнае навучанне беларускай мове, што спрычыняецца да атрымлівання моцна павялічаных асветных субвенцый. Школы гэта таксама месцы культурнага жыцця. Беларускі фэст быў наладжаны ў Новым Корніне якраз на школьнай пляцоўцы.

— Пасля апошніх дажджоў побач святліцы стала мокра, а тут прыгожае месца для культурнага мерапрыемства, — заявіла войт Вольга Рыгаровіч.

Нядаўна над Новым Корнінам і суседнімі вёскамі прайшла вялікая бура з праліўным дажджом, у час якой у Корніне пазалівала частку палёў. Была знішчана частка пасеваў. У Новым Беразове і наваколлі вецер паваліў вельмі тоўстыя дрэвы. У Корніне быў спынены дарожны рух, бо вада вялікім патокам пералівалася праз вясковую дарогу з адных палёў на другія. Абмежаваны рух машын быў таксама ў наваколлі, дзе пажарнікі расчышчалі дарогі ад паламаных дрэў і раскінутых галін. Вельмі тоўстае дрэва, вырванае з зямлі з каранямі, ляжала на цвінтары побач драўлянай царквы ў Новым Беразове. Іншае дрэва перавалілася праз царкоўны паркан.

— У Новым Корніне вада патокам пералівалася праз дарогу, наш панадворак і залівала палі. У нас пад вадой апынулася каля 4 гектараў зёлак, якія раней мы старанна апалолі. Вада амаль усё знішчыла. Вельмі мала зёлак засталося пасля буры, — сказаў Мірaслаў Раманюк, які вырошчвае збожжа і зёлкі.

— Бура і град прыбілі да зямлі збожжа ў напрамку Новага Беразова. Людзі разлічвалі на добры ўраджай, але на частцы палёў будзе ён слабы. З прыбітага да зямлі збожжа цяжка будзе намалаціць многа зерня, — гаварыла солтыс Аліна Варанецкая.

Моцна паваленае збожжа відаць было таксама ў напрамку Трывежы. Людзі прыбылі на фэст нягледзячы на знішчэнні на палях, каб, слухаючы беларускія песні, адпачыць ад штодзённых турбот.

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

# Валя Мядзведзь піша пад ліпай



Імя Валі Мядзведзь вядомае ўсім, хто слухае Радыё Рацыя, а дакладна падляшскі канцэрт пажаданняў. Знаёмых у яе шмат, і незнаёмых таксама процьма, нават такіх, хто яе яшчэ не бачыў, але і ёй перадае прывітанні. Так як Янка з Гайнаўкі ці Толік з Ялоўкі або Жэня з Бельска-Падляшскага. А яна сама, па бацьку Смактунавічанка, родам з падбелавежскіх Тэрэмісак. У славутыя Медзвядзі ў Нараўчанскай гміне, дзе ўсе жыхары — Мядзведзі, трапіла дзякуючы мужу. Трыццаць два гады пражыла з Мішам Валя ў Беластоку, а цяпер летуе ў Медзвядзях.

— Мой сын Андрэй, што працуе ў Беластоку ва Установе мер, крыху пасмейваецца з маёй пісаніны, — прызнаецца Валя. — А я сяду пад ліпай і як той... Ян Кахаваўскі, пішу пра здаровае вясковае жыццё. Цішыня тут такая пад пушчай. Не тое, што ў Беластоку, па вуліцы святоха Война, дзе чакае мяне мая пустуючая хата. У горад еду, калі мушу. Тут зелле збіраю, вяжу сурвэты, гафтую, вышываю. І слухаю Радыё Рацыя. Я ўсіх тут ужо пазаражвала гэтым сваім Радыё. У Баравых яго слухаюць, у Пасеках, у Бабігарэ... Марусі з Васем радыё прывезла, настаўленае на Рацыю, каб маглі адразу ўключыць і слухаць, найбольш таго нашага падляшскага канцэрта пажаданняў. Прыйдзі, кажа Вася, настаў яшчэ раз, пакажы, бо штосьці шуміць...

Калі пішу, словы самі да мяне ляцяць. Чытаю вершыкі знаёмым, і смяемся разам. Прычапіўся быў да мяне досыць малады хлопец. Як яму адмовіцца — вершыкам: пра старую бабу, якой засталося ўжо адно радыё слухаць, а не думаць пра замуства. Ды і як прыедзеш сюды — спачатку сумна. А калі ў той Беласток заедзеш — яшчэ сумней. Тут хоць пагаворыш з кім-небудзь. А так то да Марусі на Баравыя зайду. А ў блёку ты — як сабака ў клетцы. Адны сцены вакол цябе. А я сабе напішу верш. Пры адным паплачу, пры іншым пасмяюся. Пішу лацінкай, бо не вывучала беларускай мовы. Унукам Габрысі і Адрыянку — па-польску — казкі з белавежскага староння, напрыклад „Казку пра зубрыка Паранка". У сатыру часта мяне гоніць — у апошні час напісала вершык пра мой візіт у кардыёлажкі як „труднага пацыента": „І тут можа чакаць цябе расчараванне, бо замест добрых лекаў — кепскія дастанеш"... „Мама, ты мне сораму не зрабі сваёй пісанінай, я ў сур'ёзнай установе працую!" — жартуе мой сын-інспектар. Андрэй мае жонку-каталічку з Беларусі, з вёскі Эйсманты, а дачка Аня — мужа-католіка (жыве ў Бельгіі), але свае веры не пакінулі.

У маіх Тэрэмісках амаль нікога няма. Хто памёр, хто выселіўся. У маёй былой школе — народны ўніверсітэт. З Мішам мы пазнаёміліся на вяселлі ў Семяноўцы ў майго сваяка. Мы жылі ў Дайлідах-Гурных гадоў пятнаццаць, наймалі кватэру. Я працавала спачатку ў прадпрыемстве апрацоўкі птушынага мяса, пасля ў жалезе: у маім прадпрыемстве выраблялі між іншым цвікі, пасля нікеліраваныя замкі. Пасля стала я на працу ў жыллёвым кааператыве, і адтуль памаглі мне здабыць кватэру. А мой Міша вось якое нам зрабіў вяселле — памёр два дні да шлюбу дачкі. Ракам хвараў, памаглі і зёлкі якімі я яго лячыла, ды памёр ад інфаркту сэрца. А я моцна пакутавала рэдкай хваробай вока, так што магла аслепнуць, ды ўсе кнігі лячэння зёлкамі на стол — а вылечылася зеллем. Ды той высокі ціск не адпускае. Назбірала я нядаўна мяхі зелля, нагнулася, а тут — бліскі ў вачах! Хопіць стаміцца ці знервавацца, адразу мой арганізм рэагуе, скача ціск...

У Медзвядзях жывецца файна! Спакой, цішыня. Заеду ў Бабігару — і там маю знаёмых баб, пагаворым. І на лонцы спаткаемся, ёсць размова. Некаторыя просяць, каб пажаданні ім пераслаць праз Радыё Рацыя, бо яшчэ ніколі не мелі, каб хто ім пераказаў. Каб з імя і прозвішча, і адкуль, з якой вёскі, з якой гміны. Іванюкова з Пасек так цешылася, што пачула, а заўжды слухае Радыё Рацыя, асабліва ў суботу вечарам. І людзі запісваюць песні на касетах, навезла я іх пустых з Беластока, пакажу як запісваць у час канцэрта пажаданняў, каб мелі што паслухаць таго, што ім найбольш падабаецца. А чамусьці ў Рацыі песню пра хворага коціка не пускаюць, вельмі ўсе, і старыя і малыя, яе ў нас любяць слухаць, такая файная песня. А калі наш Адрыян кончыў чатыры годзікі, дык вельмі даспадобы была песня „Цік-так ходзікі, мне чатыры годзікі". Я раней толькі раз пачула гэтую песню ў канцэрце пажаданняў, і папрасіла, каб яе пусцілі нашаму Адрыяну. Калі ўжо надыходзіць канцэрт пажаданняў, усё да шостай гадзіны мусіць быць зробленае. Сядаю каля прымача. Калі штосьці яшчэ зрабіць, раблю пры радыё. Запісваю ўсе песні!

А цяпер скажу вам, чым лячыць жылякі. Зрабіце наготкавую мазь. Трэба ўзяць паўкіло добрага шмальцу і тры вялікія жмені наготка — з лісцем, з галінкамі. Укінуць усё тое на патэльню, як пачне тлушч сквірчаць, на пару мінут. І адставіць, прыкрыць на ноч. На ранак падагрэць гэта ўсё, каб распусцілася, пераліць праз ільняную шматку і разліць у слоічкі. А тым зеллем, што астанецца, завінуць ногі. А наготкавай мазі пасля на льняную анучку на таўшчыню нажа накласці, і рабіць аклады на хворыя ногі. Праз паўгода будзе ўсё добра!

## *Наша Радыё*

*А ў суботу кожны тыдзень усе радыё ўключаюць і ля прымача сядаюць, канцэрт пажаданняў усё чакаюць, а гурты іграюць і спяваюць ды Падляшша ўсё развесяляюць. І так цэлы год у кожную суботу ад вясны аж да зімы канцэрту пажаданняў шчыра слухаем мы. Песні ляцяць так прыгожа, што ад радыё адысці не можна — песні «Аса», «Сказкі», «Прымакоў» ну і самых «Каралёў» і ўсіх іншых гуртоў. Ну і ўсё было б складна, ды датэлефанавацца ў Рацыю не так ладна. Нашы мілыя вядучыя канцэрт двояцца і трояцца, ды перадаць усе пажаданні не заўжды ім удаецца. То са скайпа і эсэмэскі чытаюць, то тэлефанаванне прымаюць — столькі мілых пажаданняў усе перасылаюць. Усе вам удзячныя мы, за прыгожыя суботнія вечары, што ўсе смуткі адганяюць, і нас усіх развесяляюць. Усе хочуць датэлефанавацца, з Радыё Рацыя прывітацца і пажаданні перадаць, такія шчырыя і ад душы, сваім блізкім і каханым, што ля радыё сабраныя, што ўсе гуртом сядзяць і за пажаданнямі слядзяць. Ды каб усе былі рады, трэба было б канцэрт пускаць ва ўсім Радыё!*

## *Прыгажуня*

*Адной бабе ўжо збрыдла ўсё сядзеці ля акна і задумала сабе маладою быць яна і каб прыгожы мужыкі яе кахалі на вякі. Набок шапачку зложыла, папіроску закурыла, падчарніла сабе броўкі: хай зайздруюць ёй сяброўкі! Пайшла яна тут да склепу крэм на зморшчкі сабе купіць, купіць фарбу і духі, каб кахалі мужыкі. Усё купіла тут яна, ну а крэму чатыры пушкі і мазідла дзве кадушкі. Усё ўцерла яна ў твар, не пакінула ні крышкі. Ну а рана баба плача і ўздыхае і ў люстэрка спазірае, што ўся скура з твару злезла, асталіся толькі... зморшчкі! Доўга плакала, рыдала ну і цэлыя два тыдні з хаты і не выглядала, толькі ўсё ў люстэрку свае зморшчкі аглядала. І тут яна зразумела, што маладою быць не можа і што кахаць яе на вякі ўсё ж не будуць мужыкі.*

*Каб лягчэй было нам жыць, трэба марыць і любіць, не ляніцца, не баяцца, з Радыё Рацыя сябравацца. Выпіць халодные вады, ісці дзе цвітуць сады. Ляцець з ветрам проста ў хмары і здзяйсняць усе свае мары, выпіць вінца са дзве чаркі і свой лёс узяць за баркі: хай не крыўдзіць ён ужо нас. Хай настане лепшы час, хай жыццё нам расквітае, няхай сябры ўсе нас кахаюць і ідуць з намі ў жыцці, і мы будзем тож цвісці!*

**Валя МЯДЗВЕДЗЬ**

## Абанемент — плаціць, ці не плаціць?..

У чэрвені г.г. парламент займаўся справаздачай Краёвай рады радыёвяшчання і тэлебачання. На пасяджэнні ставілася, між іншым, пытанне аплачвання абанементу. Многа спрэчак узнікла ў час абмяркоўвання гэтай справы. Па ацэнцы старшыні КРРіТ Юліюша Браўна, радыёвяшчанне і тэлебачанне можа закончыць сёлетні год стратай памерам каля шасцідзесяці мільёнаў злотых.

Два гады таму, у 2010 годзе, да бюджэту з абанементу паступіла 537 мільёнаў зл. Сёлета прадбачваецца 464 мільёнаў зл. Гэта на 13% менш. Месячны абанемент за карыстанне радыёпрыёмнікам складае 5,35 зл., а тэлевізарам — 17,50 зл. У краіне зарэгістравана 6,8 млн. абанентаў, пры чым адно мільён плаціць належнасць. Два з паловай мільёна абанентаў вызвалеяцца ад платы паводле закону. Апошнія не плацяць. На думку многіх скептыкаў не без значэння застаецца факт, што публічнае названне Дональдам Тускам абанементу „састарэлым рэліктам" было фатальнай памылкай. Лідар Грамадзянскай платформы заявіў такое ў верасні 2007 года ў час выбарчай кампаніі ў парламент. Зараз чыноўнікі ўсялякімі спосабамі намагаюцца спагнаць аплату абанементу. З гэтай мэтай заключылі пагадненне з Поштай польскай. Паводле дамовы 6% ад вернутых пратэрмінаваных належных сум атрымае Пошта ў якасці ганарару. У мінулым годзе пошта пракантралявала шаснаццаць тысяч абанентаў, калі ў 2010 годзе праведзены было чатыры з паловай тысячы такіх кантроляў, а ў 2009 годзе толькі 632. У выніку рассылкі поштай 6500 напамінаў дадаткова ў бюджэт паступіла 5,5 млн. зл. Справы ўпартых абанентаў былі перададзены ў казначэйскія ўстановы. У выніку траціна пратэрмінаваных аплат была пагашана. Фіск па-рознаму інтэрпрэтаваў выконванне закону аб плаце абанементу, але Міністэрства фінансаў паставіла справу ясна: не плаціш, можаш спадзявацца візіту пісьманосца або чыноўніка казначэйскай установы. Дазваляецца спаганяць належную плату за апошнія пяць гадоў. А сумы могуць сягаць нават тысячы злотых. Затым не варта рызыкаваць!

**Уладзімір СІДАРУК**

## Дарожныя ўказальнікі

Пры дэмакратыі ў ПНР, ці г.зв. цяпер камуне, калі праязджаў вонкавы чалавек, ён ніколі не блудзіў і ў нікога не пытаў пра дарогу. Перад вёскамі ці на расходных дарогах стаялі ўказальнікі з назвамі мясцовасцей і адлегласцямі да іх. Цяпер незнаёмыя людзі заходзяць у першую ці апошнюю хату вёскі, або спаткаўшы седзячых на лавачках старажылаў пытаюць як даехаць у патрэбную ім мясцовасць.

Варта, каб адказныя за ўказальнікі службы сур'ёзна падумалі аб указальніках і паставілі іх у патрэбныя месцы. За гэта былі б удзячныя жыхары вёсак і падарожныя людзі не блудзілі б. Падумайце, даражэнькія, і сур'ёзна прыміце сабе ў сэрца гэтую справу.

**Мікалай ЛУК'ЯНЮК**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# У Надляснiцтве Броўск





Фота Ганны Кандрацюк

Дзеці на Сустрэчах „Зоркі" мелі магчымасць наведаць Надлясніцтва Броўск. Пачалі мы з мультымедыйнай прэзентацыі пра дрэвы і расліны, якія растуць у Белавежскай пушчы. Потым на лясных сцежках шукалі мы слядоў дзікоў і зубра. Захапіў мяне дуб, які расце на старажытным кургане і мае да сябе прычэпленую борць для мёду. Некаторыя дубы мелі 40 метраў вышыні. Нялёгкай задачай было адгадаць беларускія назвы кветак, зелля і дрэў. Пра гэта пыталі леснікі Яраслаў Стоцкі і Юры Панькоўскі. Мы ўбачылі таксама разрыты дзікамі мурашнік. Стомленыя дарогай у лес, мы елі чорныя ягады і салодкія суніцы. Займальным паказаўся расказ пра караедаў, асабліва як яны пералятаюць з дрэва на дрэва. Усе атрымалі падарункі ад працаўнікоў Надлясніцтва. А мы ў падзяцы праспявалі ім „Купалінку" і падарылі майкі з лагатыпам „Нівы".

Дзень 22 чэрвеня запамятаецца мне доўга-доўга.

**Максім Фіёнік**, *„Наша Суполка", IV кл. КШ з ДНБМ у Бельску-Падляшскім*
(інфармацыя ўзнагароджаная „Зоркай").

# Мой дзядуля Валодзя



Даўным даўно дзядулю Валодзю, які вучыўся ў Пачатковай школе ў Чаромсе, надалі мянушку „Лёдзік". Ён нарадзіўся ў Кузаве, мае сястру Валю. Дзядуля, калі быў малы, хацеў вучыць беларускай мове. Яму давялося трыццаць пяць гадоў працаваць чыгуначным машыністам. Ён вельмі любіў сваю працу. Часам яго не было два дні ў хаце. Цяпер ён — пенсіянер.

Ад наймалодшых гадоў дзядуля быў мне найлепшым сябрам. Мы супольна ездзілі на марожанае. Дзядуля Валодзя забіраў мяне на розныя веласіпедныя экскурсіі. Вечарамі мы гулялі ў карты, глядзелі тэлебачанне, рыхтавалі ўрокі.

Мой дзядуля гаворыць па-свойму і добра ведае беларускую мову.

**Кася Назарук, 5 клас**

# ДОБРЫЯ ПАРАДЫ НА КАНІКУЛЫ

I. Калі збіраешся на пляж, не забудзь узяць з сабой крэм для загарання з рознымі фільтрамі і акуляры. Сваю галоўку накрый ясным капелюшом.
II. У час буры не хавайся пад дрэвам, асабліва пад дубам, бо ён прыцягвае маланкі.
III. Не плавай у невядомых месцах і там, дзе няма ратаўніка.
IV. На экскурсію прыдбай абавязкова карту, каб не заблудзіцца у дарозе. І вазьмі фотаапарат, каб зняць самыя цікавыя месцы і здарэнні.
V. Не забудзь пра батарэйкі для фотаапарата.
VI. Вазьмі з сабой падручны ліхтарык.
VII. У вандроўку выпраўляйся з сябрамі, з якімі будзе цікава і весела.

*„Наша Суполка"*

# Вершы Віктара Шведа

## Крадзеным не наясіся

Прыбег Янка зухаваты
З торбай яблыкаў дахаты.
Маці сварыцца ад парога:
— Адкуль яблыкаў так многа?

— Гэта, дарагая мама,
Ад багатага Адама.
— А ён ведае аб гэтым?
— Бег за мною, як ракета!

## У стаматолага

Стаматолага спытаў Якуб:
— Колькі каштуе
каб вырваць зуб?
Лекар адказвае з ахвотай:
— Гэта каштуе
пяцьдзесят злотых.

Занепакоіўся хлапчына:
— Такая плата за хвіліну?
— Калі такая твая воля -
Я буду вырываць паволі.

# Гараскоп „Паплі”





**Казярог (23.12 – 20.01):** Урэшце з’явіцца тваё каханне. Спачатку вас будуць крытыкаваць, перашкаджаць у сустрэчах. Будзь адважны, не прызнавайся ў каханні праз эсэмэску або э-мейл. Гэта трэба сказаць словамі, гледзячы сімпатыі проста ў вочы.

**Вадалей (21.01 – 19.02):** У першым месяцы канікул тваё жыццё наладзіцца і прынясе задавальненне. Дапамагай бацькам і сваякам. Усе будуць табой захапляцца. А найбольш твая сімпатыя, якая прадставіць цябе сваім бацькам. Памятай, купі кветкі сваёй будучай цешчы.

**Рыбы (20.02 – 21.03):** Тваё сэрца апантае дзікасць і прага завяёў. Не купайся на дзікім пляжы і не падчапляй турыстак. Пазвані сваёй сімпатыі, яна чакае твайго званка.

**Баран (22.03 – 20.04):** Варта наладзіць хаўрус з ворагам. Далей усё атрымаецца гладка. Твая сімпатыя падрыхтавала для вас супольнае падарожжа.

**Бык (21.04 – 21.05):** Пара прачнуцца і пачаць жыць! Твой найлепшы сябар запросіць цябе на імпрэзу. Абавязкова, пакарыстайся запрашэннем. Сустрэнеш там сваю „палавінку”.

**Блізняты (22.05 – 22.06):** Неўзабаве чакае цябе радасны досвед, паедзеш у жаданае падарожжа. У цябе будзе прыток сілы і адвагі. Усе будуць хацець з табой пасябраваць, увайсці ў суполку.

**Рак (23.06 – 23.07):** Урэшце пабачыш хто сапраўды твой партнёр. Не хвалюйся, кожная змена будзе працаваць у тваю карысць. У каханні чорны перыяд. Твая сімпатыя страціць галаву для іншай асобы. Не перажывай, пашукай сабе лепшай „палавінкі”.

**Леў (24.07 – 23.08):** Да канца канікулаў будзе біць з цябе фантан аптымізму. Усе зоркі будуць свяціць над тваёй галавой, нават калі ноч будзе бязмесячнай. Фартуна падрыхтавала табе вялікія прызы і нечаканыя сустрэчы. Сцеражыся даўняй сімпатыі, яна хоча табе адпомсціць за здраду і свае няўдачы.

**Дзева (24.08 – 23.09):** У канцы канікулаў раім засяродзіцца на сваіх справах. Прыбяры свой пакой і звярні людзям усе даўгі, якія накапіліся цягам папярэдніх месяцаў. Не хадзі басанож, бо можаш застацца без кіпцюроў. У пачатку жніўня сустрэнеш вялікае каханне.

**Шалі (24.09 – 23.10):** Спакойна глянеш на ўсе няўдачы, хтосьці мілы прышле табе жаданую эсэмэску. Не сядзі дзень і ноч перад камп’ютарам!

**Скарпіён (24.10 – 22.11):** Неўзабаве сустрэнеш шамана, які паспрыяе каханню з ідэальнай сімпатыяй. Не забывай пра гігіену. Слухай заўсёды „Падляшскі канцэрт пажаданняў”. Выходзь з сабакам прагуляцца.

**Стралец (23.11 – 22.12):** Дазволь сабе на адпачынак. Усё само прыйдзе да цябе. Спачатку гэта будзе боль галавы. Не бяжы адразу да лекара, ён таксама хоча адпачыць. Пазвані сваёй сімпатыі, а калі яшчэ яе не маеш, ідзі на танцы і шукай асобы на літару М.



# Музыка з кайфам

## Джэм ці бум?



http://generation.by

З’есці ці пайграць? — так жартоўна можна перакласці загаловак гэтага кароценькага артыкула, які распавядзе пра адно вяртанне, пра якое невядома ці будзе паспяховым!

Так прынамсі думаюць некаторыя крытыкі ў Беларусі, бо, шчыра кажучы, невядома, што думаць пра вяртанне гурту, які збіраецца прэзентаваць свае старыя гіты ў новай форме, нахай і зусім сучаснай…

„Джамбібум” у 2008 годзе за свой альбом атрымаў адзнаку ад партала experty.by. Гэта быў час, калі гурт пад гэтай назвай асацыяваўся з новым відам фолькy ў Беларусі: галікатным, але энергетычным, цудоўна гарманічным, у якім гітара з голасам прагучала неяк інакш чым у „Тройцы” ды іншых акустычных ці фолькавых гуртах. Варта тут адзначыць, што публіку гурт здабываў таксама радасным характарам сваёй музыкі, што час ад часу бывае нават неабходным на музычнай сцэне і на гэтае патрабаванне ў свой час адказаў „Джамбібум”.

„Джамбібум” — гурт, які ўзнік у моладзевым асяроддзі аднаго з раёнаў Мінска. Маладыя людзі вырашылі папулярызаваць народную музыку будучы блізка слухача і гэтае доўгі час ім атрымлівалася. Адтуль такая сімпатыя для гэтага гурту з боку слухачоў, не толькі ў Беларусі. Першы альбом „Джамбібум” запісалі ў 2006, а другі — „Жаваронaчкі” ў 2008 годзе. Зараз вядзецца праца над новым матэрыялам, які ўзбагачаць будуць скрэчы і этна біт-бокс (гарэчы, цікавае гэта хобі, калі вы яшчэ не прабавалі — прапаную паспрабаваць і, мабыць, зразумееце, чаму так многа людзей у свеце стварае рытмы вуснамі).

Чаму лёс абноўленага гурту невядомы? Лідарка гурту Наста Хмель вырашыла працаваць з гуртом з-за далёкай мяжы, бо ажно з Францыі і некаторыя кажуць, што будзе так як з „Крыві” пасля разыходу са Зміцерам Вайцюшкевічам і выездам у Нямеччыну Веранікі Кругловай. Але можа быць так як з „FolkRoll” і Настай Някрасавай, якая жыве ў Польшчы — амаль кожны яе выступ гэта поспех ці перамога ў конкурсе! Няхай так і будзе! „Джамбібум” вяртаецца, а мы чакаем музыкі.

i_basovka@o2.pl

# Польска-беларуская крыжаванка № 32

**Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**Адказ на крыжаванку Лукаша (№ 27):**

**Сасна, дуб, груша, елка, яблыня, каштан, вярба, клён.**

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Spojrzenie / Ton | | Sens / Lek | Lato / Krąg | | | | |
| | Jar / Wagon | | | | | Halo! | | | |
| Jak / Jezioro | | | | | | | Jer / Mi | | |
| | | | | | | | | Alicja | |
| Wakacje | | | | As | | | Ty | Ar | |
| | | | | | | Ta | | | |
| Norka | | | Satyr | | | | | | |

Іаанна ЧАБАН

# Рудакі, святога Яна, 2012.



Вера Крук (злева)

Фота Галены Пухальскай

Вера Крук, па мужыку Каравайчык, нарадзілася восемдзесят пяць гадоў таму ў Рудаках, цяпер Крынскай, калісь Галынскай гміны. Яе хата знаходзіцца на самай ускраіне вёскі, заадно ў канцы Еўрапейскага Саюза. Ад усіх навакольных сядзіб адрозніваецца вялікай колькасцю разнакаляровых, задбаных кветкавых агародчыкаў, якімі, нягледзячы на сур'ёзны ўзрост, сама апякуецца. Не толькі хата, але і гаспадыня выклікае самыя лепшыя ўспаміны з дзяцінства. Хто не згадае сваю клапатлівую, вясковую бабулю, гледзячы на ветлівую, маленькую, спраўную старушку, скромна адзетую ў спадніцу, блузку з доўгім рукавом і абавязковай, каляровай хусткай на галаве. На фоне ейнай сціплай вопраткі весела бліщчаць брыльянцікавыя завушніцы, рыхтык з колішніх непаўторных, сапраўдных вясковых фэстаў. Святочны клімат таксама захаваўся ўсярэдзіне бабулінай хаты. Гэта дзякуючы разнастайным букецікам кветак, якія ніколі не ўміраюць. Яны ўпрыгожваюць святыя куткі, старую шафу, сталы, услоны і амаль кожны куток хаты. Дзякуючы ім вясна трывае тут увесь год. У адрозненні ад звычайных кветак, яны нарадзіліся ў доўгія, зімовыя вечары, з зусім выпадковых, а нават лішніх матэрыялаў, такіх як пластмасавыя, аднаразавыя пакецікі. У адзінокія „кудзелі" спадарыня Вера займаецца таксама вырабам каляровых сурвэтак і ўспамінамі часоў маладосці.

— Зімой няма чым заняцца, то так во сяду і пляту, абы плясці. Калісь вязалі, пралі, ткалі, а цяпер нічога няма. Няма і вёскі. Не знаю ці дзесяць асоб тут знойдзецца. Усе мае каляжанкі паўміралі, дажываюць адны халасцякі і разводнікі, якіх гарэлка згубіла. У адрозненні ад жанчын, яны не ўмеюць знайсці сабе заняцця, заробку няма, у агарод не пойдуць, на рыбалку таксама не, бо наша рака гранічна і рыбу лавіць не дазваляюць. Я дзісь устала рана і ўспомніла як то калісь на Яна было. Ужэ ўвечары, напярэдадні свята, людзі збіраліся адны да другіх, каб чуць свет разам у лес схадзіць. Ішлі цэлай вёскай, назад бацке вазамі пад'язджалі і забіралі дахаты, а дзісь, нікуды. Тут, не так як цяпер, кругом расцягаліся вёскі і панскія палі, да лесу трэба было вельмі далёка ісці. На Яна было першае выйсце па ягады, а яшчэ ў гэты дзень бабы збіралі лячэбныя зёлкі, між іншым, сенціяне, якіх асвячалі ў царкве на Спленне. Дахтароў тады не было, у бальніцу ніхто не лягаў, та старэйшыя бабы лечылі гэтымі зеллямі. Калісь Ян не лічыўся ў нас да свята. У гэты дзень да царквы не хадзілі. Наш прыход знаходзіўся во, за тымі кустамі, у Галынцы. Туды нам было менш як паўкіламетра, ішлі мастом, праз рэчку. Там была ўніяцкая царква, уваходам накіравана да захаду, а не на ўсход, вяліка, муравана. Там заўшэ фэст на Пяценку адбываўся. Помню, яшчэ як мама былі, то мы, дзеці, бежымо, та яблыкаў купім, та цукерак. У Галынцы ўсё было: гміна, яўрэі мелі свае лаўкі і бажніцу. І ў школу мы там хадзілі. Усюды было нам блізка, не так як цяпер. Вось нас падчапілі пад Крушынянскі прыход. А хто туды пойдзе сем кіламетраў, калі ў вёсцы самае стар'ё. Упярод прыязджаў сюды бацюшко, пад крыжом маліліся. Цяперашні ўжо не прыязджае да нас, хіба што па хлебныя грошы і мы ўжо не знаем што, калі. Калісь маладым было весяло, не даядалі як цяпер, але было весяло. Забавы рабілі, танцавалі, не глядзелі ці я пад'ета ці непад'ета. Гулялі разам і старыя, і малядыя. Старыя, вядома, ужо не танцавалі, толькі ўзіраліся і ацэньвалі як каму выходзіць, як хто паводзіць сябе. Людзей збіралася множ, прыходзілі з Галынкі, Непарожнеўцаў, Рудаўлян, Кулей. Усе тыя вёскі цяпер за граніцай. Азяране з намі не дружылі, яны задаваліся, багатырэ былі. Нашы лічылі, што яны надта багатыя, але Ласіняны та ўжэ іх нашы, мы не лічылі іх чужымі. Коматаўцы прыходзілі са сваімі дзяўчатамі. Самым дзяўчатам па чужых вёсках танцаваць не выпадала. Такая была вясёласць, як кажуць, „не увежно, але ўлежно", не было смакоў, але гулялі і гулялі. Эх, дзе тыя часы, далёка адышлі. На забавах найчасцей іграў Толік Дарожка з Ласінян. Раз тут прыйшоў, што ж, у сваёй вёсцы мусі чатырох мужчынаў засталося. Хадзіў, заглядаў, бядаваў: „Ай, што было, што сталася, Рудаке...". Цяпер не наравяцца мне гэтыя часы,

Фота Іаанны Чабан



не наравяцца. І піці, і есці, і ўсё ёсць, но радасці няма жаднай. І вёсак ужэ німа, наша та ўжэ ўвогуле падае, шчэ як пару чалавек за зіму зваліцца, та ніхто тут не астанецца. Помню, раз я ў Малых Азяран жала, удзвюх з Рудакоў туды пайшлі. На абед няма чаго ўзяці, у хаці нават хлеба няма, цыбулі нашчыпалі на агародзе і давай у наём. Азяранскі гаспадар — Алесь — якраз у Беласток паехаў. Мы ўдзвюх самі жалі, самі стаўлялі, вязалі. Тыле ж зрэзалі гэтага збожжа, што проста азяране дзівіліся. Гаспадар за гэта пабяцаў збожжа на лета. Тата з мамай цешыліся, што на жніва будзе чым пасіліцца. Хлеба так і не спяклі. Пайшоў сусед, заграізіў судом, ледзь на коляды зарвалі тое збожжа з яго. А мы вяртаемся дахаты п'яныя ад усталасці. Падышлі пад Рудаке, чуем, гармонія іграе. Кінулі сярпэ і бягом на забаву. Жала я і ў Рудаках, у пана Хвайноўскага, два лет дзень у дзень рабіла. Гэта за немцам было. У яго я атрымала мэльдунак, таму на работы не вывезлі. Усё рабіла, што толькі трэба было: картоплю выбірала, жала. Збожжа касілі касцэ касамі, а мы адбіралі, вязалі і малацілі. Ён узяў чацвёра людзей з нашай вёскі. Зімой нічога не было рабіць, та пер'я дралі. За работу ніякай заплаты не даставалі, адно што абедам частаваў. У пана было сорак гектараў зямлі, восем кароў і многа коней, двор быў драўляны, двухканцовы. У адным жыў пан, у другім мы елі, а нанач разыходзіліся па хатах. Пры двары быў вялікі сад, нават яблычка не дазволіў паднянць, такі быў пан. Хвайноўскія паўцякалі ў Амерыку. Як сталі саветы разрабойваць гэтых падпанкаў, то яны ўсе паўцякалі. Калісь цэлай вёскай у пана нанімаліся. Тут жыла бядота, мала земле мелі, мусілі ісці да паноў. Помню, мама кажа: „Пайду картоплю выбіраць да пана", а я на гэта: „Мамо, а як вы пойдзеце, мароз белы, у што абуецеся". „А, вазьму ганучкі, накручу на ногі, зойдзем. Пакуль мароз злігне, та ў кошык ногі паўстаўляем". Панэ многа садзілі і не ўспявалі да марозаў усяго сабраць. За работу расплачваліся грашыма. Картоплі ніхто да хаты не браў, бо цяжка было несці. Паны самі прыязджалі ў вёску за наемцамі, рабілі ва ўсіх навакольных дварах, нават і пад Бераставіцай.

У бацькоўскай хаце спадарыні Веры было пяцера дзяцей, усе ўжо паўміралі. Найхутчэй адышла чатырнаццацігадовая сястра.

— Для нас дахтароў не было, яны патрабавалі вялікай заплаты, таму лечылі толькі багатых. У сястры зрабілася запаленне ў галаве, не было за што ее лячыць і ўмерла. Тады смерць часта забірала маладых і дзяцей. Брат за граніцаю, тут пару метраў за ракою ажаніўся, яшчэ да вайны ў прымаке пайшоў. Я часта ездзіла да яго. Аж тут раптам тэлеграма прыйшла, што памёр. Я думаю: „Но як ён умёр, я ж нядаўно ў яго была". Не верылі мы, адправіліся туды з братам, цэлу ноч на граніцы ў Баброўніках нас дзяржалі, не пускалі. Потым, над ранам прышоў газік з рускіх, які завёз нас да самай хаты. І ўсё не верымо як ён мог умерці. А як жа, увайшлі мы ў хату, ляжыць прыбраны. Быў на памінках, выпілі троху і на стол спёрся, думалі ён спіць. Хацелі яго збудзіць, а ён ужо нежывы быў. На сэрца хварэў, так і ўмёр на стале. Ездзіла я некалькі разоў у Галынку. Цэрквы там ужо німа, разабралі як граніца адышла, нават муру не аставілі. Там бацюшке пахованы былі, та ўсе каровы па магілах хадзілі. Але як мярца вязуць, то ўсё раўно астанаўліваюцца на гэтым месцы. Цяпер найбліжэй ім да бераставіцкай царквы. Там многа самаходаў маюць, ніхто не ходзіць, калі б хацеў нагамі пайсці, та не дазволяць. Адзін раз я кажу на брата: „Пяройдуся, та ж мы тут хадзілі гэтым гасцінцам да самай Бераставіцы. Файно было б паглядзець, успомніць як ён выглядаў". А скуль, выйшла толькі за вёску, ужэ едзе машына, стала, сядай і ўсё. А ў нас, ідзеш, ано фюкне каля цябе і паехаў. Тутака, у нас німа таго. І так не паглядзела я гэтага гасцінца, забралі мяне зараз за вёскаю. У дзяцінстве, яшчэ жыдэ былі, за тую Польскаю, як толькі стала на ногі станавіцца, то шчавель рвала, насіла ў Бераставіцу прадаваць. Ранютка нарву таго шчаўю і пакуль яны паўстаюць, я ўжо занясу і прадам. Насіла палявы шчавель, сабіраны па межах. А межы былі ў гаспадароў, дапільнуюць, не даюць. Трэба, хаваючыся, панарваць гэтага шчаўю. Блізка было нам тады і да галынскай школы. Велька была, цагляна. За Польскі тылько чатыры клясыканчалі. Каб далей вучыцца, трэба было мець срэдства. Што ж, бяры сярпа ў рукі і жні ў пана. Я дзве клясы за Польскі скончыла, бо яна ўжо прапала. Потым пайшла ў савецкую школу, дзе вучылі нас па-руску і па-беларуску. Прыйшоў немец і ніжаднай школы не было, бо яны ішлі, ваявалі-ваявалі і самі не надзеяліся, што тут зоймуць саветаў, жаднай школы не распачыналі. Так мы гулялі без школы.

Цяжкое было жыццё, але і так я сённяшніх, багатых часоў не разумею. Маладзёж якаясь надта шалёна стала. У нас калісь, Божэ мой, каб сукенка была, калені каб наверху, гэто ўжэ ўстыд, і не выйдзеш на дарогу. У царкаў, каб прыйшла без хусткі, ці каб дзе цела было наверху. Адной кабеце з суседняй вёскі захацелася рукавэ тры чацвёрты ў блузцы пашыць. Прыйшла ў царкаў, а бацюшка кажа : „Уйдзі дамой, не паказвай дажэ віду". І выйшла, і пайшла, і больш не надзела той блузкі.

Найвесялей жылося нам за саветамі. Помню, якоесь рускае свята было. Тады ўсе вёскі з чырвонымі сцягамі адправіліся ў Галынку. Там такі вялікі пляц быў, кругом якога мы хадзілі і спявалі рускія песні. Раптам запыніў нас якісь начальнік і папрасіў, каб утраёх мы заспявалі. Я толькі рускімі песнямі цікавілася, польскіх не любіла. Не магу дакладна ўзгадаць мелодыі, але помню, што яму надта панаравіліся нашы галасэ. Сказаў: „Ну, такіх галасоў я не слыхаў". Я была ўжэ ўзрослая. Паслаў ён вестку пра нас у Маскву, зараз прыйшло і запрашэнне. Мама не згадзілася выпусціць мяне ў свет. Усё не і не казала: „Як я буду есці хлеб, та будзе табе; не буду мець, не будзе і табе. А да Масквы не паедзеш". Мабыць, калі б паехала, то можа і дзісь там была, а мо і не жыла б ужэ. А так гаравала цэла жыццё па чужых загонах.

# Гродзіская шматкультурнасць (2)

Тэкст і фота
Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

**У прыведзеных раней статыстыках Гродзіскай гміны не згадваў я пра адну вёску, якая шмат часу лічылася найбольшай на тэрыторыі гэтай гміны. Яе велічыня знайшла адлюстраванне і ў ейнай назве — Чорная-Вялікая. У яе таксама і незвычайнае мінулае...**

Тамаш Яшчолт: „W 1757 r. wieś należała do parafii unickiej w Drohiczynie z racji przynależności do starostwa drohickiego. Do 11 VII 1775 r. wieś była zapisywana jako Czarna Królewska, od 11 VIII Czarna Dziedziczna. Jeden raz 14 XI 1779 r. znów jest nazwana, zapewne przez pomyłkę, Królewską, a od 30 XI 1779 r. do dziś funkcjonuje nieprzerwanie nazwa Czarna Wielka. Druga część nazwy pochodzi od dużej liczby domów i mieszkańców w porównaniu z wsiami sąsiednimi. Chociaż obecnie istniejąca wieś ma metrykę XV- i XVI-wieczną, to ziemie na których leży były zasiedlone dużo wcześniej. Świadczą o tym liczne stanowiska archeologiczne zachowane do dziś w postaci cmentarzyska typu „mazowieckiego" z okresu wczesnego średniowiecza, będącego jednym z największych na Podlasiu, oraz 9 kurhanów z tego samego okresu".

Айцец Рыгор Сасна: „Jeszcze latem 1951 roku na rozległym wczesnośredniowiecznym cmentarzysku z grobami w obstawach kamiennych w Czarnej Wielkiej, częściowo przebadanych w XIX wieku przez Awenariusa, pojawiła się ekipa badawcza Akademii Medycznej w Białymstoku. Motorem działania stała się przypomniana legenda o Jadźwingach na Podlasiu. Materiały kostne z cmentarzyska miały przyczynić się do określenia „antropologicznej struktury Jadźwingów". Jednak [wniosek ów] wywołał surową replikę archeologa Krystyny Musianowicz i historyka Aleksandra Kamińskiego, którzy w przekonywujący sposób argumentowali, że zarówno sposób konstruowania grobów w Czarnej Wielkiej, jak i zabytki w nich znalezione wskazują na mazowiecką metrykę, a odkopywane szczątki kostne należy wiązać ze słowiańskim elementem etnicznym" («Wiadomości PAKP», 1982, nr 3-4).

І далей: „Antropolodzy z Zakładu Anatomii Prawidłowej Człowieka Akademii Medycznej w Białymstoku [przeprowadzili] badania antropologiczne obecnej ludności wsi Czarna Wielka, w celu porównania jej składu rasowego ze starożytnymi szkieletami. Badania porównawcze stwierdziły ponad wszelką wątpliwość, że obecna ludność tych okolic nia ma żadnych powiązań z wczesnośredniowieczną populacją pochowaną na cmentarzysku i stanowi wynik późniejszych migracji. (Cmentarzysko mylnie uważane początkowo za jaćwieskie zostało określone ostatecznie przez prof. Rybakowa jako dregowickie)".

Значыць, ціхмяныя дрыгавічы-палешукі апынуліся на могільніку, а іх месца, як Абетаваную зямельку, заняў больш рашучы народ. Тамаш Яшчолт: „W 1751 r. Sąd Referendarski wydał dekret w sporze starosty drohickiego Jana Ossolińskiego z chłopami z Czarnej. Sąd uznał m.in. pierwszeństwo gromady w prowadzeniu szynku piwnego i gorzałczanego przed Żydem arendarzem. W 1752 r. tenże sąd potwierdził poprzedni wyrok i stwierdził że: *...szynku piwnego i gorzałczanego bliższą gromadzie... niżeli Żyda arendarza uznaliśmy i na krzciny, wesela, stypy, pogrzeby i święta Bożego narodzenia i Wielkanoc po ćwierć zboża gromadzie pomienionej robić piwo w kotle dworskim pozwoliliśmy*".

Але неўзабаве, бо ўжо ў 1775 годзе вёска апынаецца пад прыватным панаваннем Асалінскіх, якія атрымалі яе ад караля ўзамен за іншыя мясцовасці. З таго і пайшла змена назвы з Каралеўскай на „звычайную" Вялікую. Змагаліся сяляне адчайна за ранейшае паддантства, але беспасяхова. Тамаш Яшчолт: „W 1860 r. przejeżdżającemu cesarzowi Aleksandrowi do Białowieskiej puszczy podali prośbę, w kilka tygodni kazano im objawić, że ukaz senacki przyznał wodczynne władanie Ossolińskiemu, kazano wziąć podpiskę, że w tym interesie nie będą więcej żadnej prośby podawać, przeciwnie, jeśli wznawiać będą tę sprawę, karani będą jako osłuszniki".


Могільнікавая царква ў Чорнай-Вялікай

Пара вярнуцца з адлеглага мінулага ў сучаснасць. Чорная-Вялікая распалажана зараз уздоўж дарогі з Гродзіска ў Дзядковічы. Ад вуліцы, як гэта прынята ў большасці мясцовых вёсак, жылыя збудаванні. У Чорнай-Вялікай у кожнага з іх індывідуальны воблік, быццам кожную хату будаваў іншы майстар паводле сваіх уяўленняў. Ёсць тут традыцыйныя хаты драўляныя і вялікія мураванкі. Ёсць хаты абжытыя, менш абжытыя і зусім пустыя. Доўгая вуліца ў спякотны абедні час пуставатая і не падае надзеі на спатканне на ёй нейкай жывой душы. Але ж вёска вялікая, не толькі з назвы, і недзе пасярэдзіне яе дзяжурыць на лавачцы чацвёрка пажылых людзей; падсядаюся да іх. Аспрэчваюць яны маё перакананне аб велічыні іхняй вёскі, цвердзяць, што ўжо мала хто ў ёй астаўся, што многія хаты пустуюць або заселены толькі адзіночкамі.


Межавы барэльеф між Чорнай-Вялікай і Зарэмбамі

Цікаўлюся, як вяскоўцы размаўляюць паміж сабою. Па-свойму, але толькі старэйшыя. Ды і адна з суразмоўніц гаворыць толькі па-польску, бо яна вырасла ў не надта далёкіх Стадніках, што ў Драгічынскім прыходзе, а там ужо па-свойму ў ейны час не гаварылі. А ў мясцовым наваколлі, так як і ўсюды, выступаюць розныя моўныя асаблівасці, напрыклад у Чорнай-Вялікай гавораць *ідзі*, у Чорнай-Царкоўнай *ідзі*, а ў Макарках — *пайшоў*. Але толькі старэйшыя, бо маладыя не карыстаюцца мовай продкаў.

Мяняецца і канфесійнае аблічча вёскі. Тамаш Яшчолт: „W 1921 r. we wsi było 67 domów, w których mieszkały 343 osoby (187 Polaków i 156 Białorusinów, a według wyznania: 16 katolików, 301 prawosławnych i 26 żydów), była to wówczas największa wieś w gminie Grodzisk". Пасля апошняй вайны ў СССР выехала шэсць праваслаўных сем'яў, а адтуль прыехала восем каталіцкіх. Іншая суразмоўніца, якая родам са Свірыдаў, што каля Браньска, паінфармавала мяне, што ў ейнай роднай вёсцы зараз асталося каля паўдзесятка праваслаўных сем'яў, калі ў царскі час амаль усе там наведвалі царкву.


Магілка Мікалая Калодкі

Мясцовыя праваслаўныя абыходзяць палі ў нядзелю пасля Сёмухі: моляцца перад крыжамі. Але мяне цікавіць толькі адзін такі аб'ект — вертыкальны плоскі камень з барэльефнай выявай святога Мікалая, што ў лесе побач дарогі ў Дзядковічы. Мае суразмоўцы інфармуюць, што гэта межавы знак паміж вёскамі Чорная-Вялікая і Зарэмбы. Але неўзабаве гавораць пра тое месца больш...

Недалёка ад гэтага крыжа, што на асаблівым каменным пастаменце, знаходзіцца магіла колішняга чарнянскага настаўніка Мікалая Калодкі; яго там павесілі паўстанцы 1863 года. Было гэта летам, Калодка начаваў на сене ў стадоле. Паўстанцы хацелі яго там узяць, але ён пераскочыў на воз з сенам і адтуль адбіваўся, а чалавек ён быў дужы. Тады нападнікі выпхнулі воз навонкі, але надалей не маглі яго схапіць. Тады яны перавярнулі воз, кінуліся на Калодку з шынялямі, накрылі яго і толькі тады звязалі. Вывезлі яго ў напрамку Дзядковіч і там павесілі. Там яго і пахавалі, паставілі цэментны намагільнік, вучні з чарнянскай школы апекаваліся тою магілай. А калі скончылася царскае панаванне, тады жыхары Зарэмбаў разбурылі яго магілу, а намагільнік забраў адзін з іх і кінуў на сваім панадворку. Неўзабаве ў Зарэмбах успыхнуў пажар, у выніку якога згарэла цэлая вёска; пачаўся ён з панадворка, на якім ляжаў зганьбаваны намагільнік... Суразмоўцы інфармуюць мяне, што на магіле і зараз стаіць крыж, а яна ў недалёкім аддаленні ад межавога каменя, крыху бліжэй, налева, дзе *заязд*. Пару гадоў таму прыязджалі туды сямейнікі пакойніка з Драгічына, бо адтуль ён быў родам.

Магчыма, што гэтая трагічная падзея ўнесла змену і ў ландшафт вёскі; пяць гадоў пазней, у 1868 годзе з'яўляецца ў Чорнай-Вялікай царква, філіяльная Гродзіскага прыхода. Айцец Рыгор Сасна: „21.10.1868 r. na miejscu stwierdzono, że cerkiew zbudowana została z dobrego drewna w kształcie okrętu, pokryta gontami. Ikonostas ustawiony zgodnie z obrządkiem prawosławnej cerkwi. Dnia 2 lutego 1869 r. nowozbudowana cmentarna cerkiew pod wezwaniem Ikony Kazańskiej M.B. została konsekrowana". І далей: „W 1884 roku w Czarnej Wielkiej została założona cerkiewno-parafialna szkoła. W lutym 1887 roku profesor Akademii Duchownej w Petersburgu Michał Osipowicz Kojałowicz przekazał tej szkole książki i broszury własnego autorstwa jako nagrody dla dobrych uczniów, zaś ober-prokurator św. Synodu Władimir Karłowicz Sabler przysłał ze Składu synodalnego podręczniki na sumę 99 rubli, które na dłuższy czas zabezpieczyły Czarniańską szkołę w pomoce szkolne. Czarna Wielka była zaliczana do bardziej oświeconych wsi w Grodziskiej parafii". Але не заўсёды ў гэтай вёсцы было так мажорна; Тамаш Яшчолт: „W nocy z 25 na 26 stycznia [1946 r.] oddział partyzancki Romualda Rajsa „Burego" we wsi Czarna Wielka zarekwirował 18 koni i wozów, 15 wieprzy, 80 kożuchów oraz ubrania".

Прайшоўся я ў бок Дзядковіч, разглядаючыся ў лесе дзе ж той *заязд*, маючы на думцы лясную стаянку, дзе мела быць магіла колішняга настаўніка Мікалая Калодкі. І нічога не пабачыў дайшоўшы да каменнага барэльефа. Рашыў тады вярнуцца назад. Замест стаянкі ў меркаваным месцы былі толькі разгалінаваныя дарожкі ў лес. Але ніякага крыжа там, ніякай магілкі. Толькі калі ўжо павярнуў да выхаду на дарогу, прыкмеціў у крапіве ледзь відочны драўляны крыжык, падмацаваны драўляным слупкам; перад ім стаялі выгарэлыя лампадкі. Такія ж лампадкі былі і перад барэльефам з выявай св. Мікалая. Той барэльеф, як мне здаецца з прачытаных матэрыялаў, быў пастаўлены ў пяцідзесятую гадавіну трагічнай смерці чарнянскага настаўніка Мікалая Калодкі, значыць амаль сто гадоў таму. Толькі прачытаць надпісы на ім не было мне пад сілу...

Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА

# Несліся песні над Дабрывадай





Мінскія „Грамніцы”

22 ліпеня Гарадскі асяродак культуры ў Кляшчэлях арганізаваў у Дабрывадзе фэст. Суарганізатарам было Галоўнае праўленне БГКТ. Надвор'е паспрыяла, публіка не падвяла. На пляцоўцы побач святліцы, дзе даўней была школа, сабралася некалькі дзесяткаў чалавек. Не ўсім хапіла месца на прыстаўленых лаўках. Значная частка расселася побач на траўцы, іншыя проста стаялі. Імпрэза пачалася ў 14 гадзін з выступлення дырэктара ГАК Лявона Алексеюка. Вядучы і заадно арганізатар мерапрыемства прывітаў гасцей: старшыню ГП БГКТ Яна Сычэўскага, сакратара ГП БГКТ Валянціну Ласкевіч, бурмістра Ірэну Негярэвіч, павятовага раднага Яраслава Герасімюка, а таксама гміных радных і солтысаў ды шматлюдную публіку. Затым слова ўзяла бурмістр Ірэна Негярэвіч, якая сказала:

— Дабрывада — гэта адна з большых вёсак у гміне. У салэцтве пражывае 230 жыхароў. Вёска развіваецца. У мінулым годзе за грошы салэцкага фонду было куплена абсталяванне для святліцы, адноўлены будынак звонку і ўнутры. У наступным годзе салэцтва атрымае 10 тысяч злотых. Жыхары вырашаць, на якую мэту прызначаць грошы. Актыўную працу ў карысць грамадскай супольнасці праяўляе радны Мікалай Купрыцюк і солтыс Ірэна Яўдасюк. У знак прызнання атрымаюць яны гасцінец.

Цырымонію ўручэння гасцінцаў здзейсніў павятовы радны. За грамадскую дзейнасць падарункі атрымалі шэсць іншых асоб, у тым ліку былы шматгадовы солтыс Сяргей Смык і сакратар ГП БГКТ Валянціна Ласкевіч.

— З жніўня пачнуцца святкаванні Дзён Кляшчэляў, — працягвала бурмістр Негярэвіч. — У 17 гадзін у цэнтры культуры „Гладышка” адбудзецца ўручэнне медалёў для шаснаццаці шлюбных пар за 50-гадовае сужонства. Сярод юбіляраў знаходзіцца Валянціна Клімовіч, кіраўнік вакальнй групы, якая ў наступным годзе будзе адзначаць 45-годзе існавання калектыву. Запрашаю юбілярку і шаноўную публіку на Дні Кляшчэляў...

Затым пачалася мастацкая частка. Вядучы выказаў шчырую падзяку спонсарам за фінансавую падтрымку, а былі імі Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі, Насычальня ў Чаромсе, спадар Кірылюк з Гайнаўкі, фірмы „Гайвэк” і „Франко” з Бельска-Падляшскага, Януш Ліпінскі з Чаромхі і Валенты Шчука з Кляшчэляў.

У мастацкай частцы выступілі вакальная група з Дабрывады, „Вішанька-чарэшанька” з Сухавольцаў, „Каліна” з Дашоў, „Сказка” з Беластока, „Прымакі” і „Грамніцы” з Мінска. Дабрывадскае трыо Валянціна Клімовіч, Ніна Яўдасюк і Барбара Якімюк пачалі выступ песняй „Повіяў буйны ветерок”. Да іх далучылася варшаўская група спевакоў, узначальваная сужонствам Юрыем і Зузаннай Маравецкай-Пастушэнка. У мінулым годзе група запісвала ў Дабрывадзе фальклор і наладзіла сяброўскія кантакты. Карыстаючыся нагодай, рашыла зараз запрэзентаваць некалькі песень. Публіка ўзнагародзіла іх гучнымі апладысментамі. Гурты з Сухавольцаў і Дашоў выканалі па дзве песні, якія даўней спявалі на вячорках. Вельмі ўдалым аказаўся выступ „Сказкі”. Калектыў пад кіраўніцтвам Паўліны Казёл запрэзентаваў папулярныя гіты „Колечко”, „Родны край”, „Пасылала мяне маці” ды іншыя. Затым выступілі „Прымакі” з непаўторным гумарыстам Юркам Астапчуком. І панесліся над Дабрывадай песні „Пажаданні ад прымакоў”, „Смэрэко”, „Ажаніўся хлопец”... У перапынках паміж песнямі вядучы забаўляў публіку анекдотамі. У гэтай справе няма яму роўных. Пасля кожнага нумару не сціхалі бурныя воплескі і воклічы „біс”. Два разы публіка прымусіла гурт вярнуцца на сцэну. Канчаткова іх выступ закончыўся песнямі „Пажаданні ад прымакоў” і „Як забава, дык забава”. Мастацкую частку завяршыў калектыў „Грамніцы” з Мінска з шаснаццаці чалавек. Госці з Беларусі запрэзентавалі добра вядомыя дабрывадскай публіцы беларускія песні „Ой лесам, лесам, баравіною”, „Шумяць вербы”, „Вяне рута”, „Дзяўчынонька, шуміць гай”, „Ехалі казакі” і шмат іншых. Бісам не было канца. Зважыўшы на абмежаваны час, бо, як сказаў кіраўнік калектыву, чакаў іх чарговы канцэрт у Мілейчычах, развіталіся жартоўнай песняй „Каваль-кавалёчак”.

Пасля мастацкай часткі салэцкая рада запрасіла выступаючых гуртоў і гасцей на пачастунак. У сустрэчы ўдзельнічалі ўраджэнцы Дабрывады, якіх лёс кінуў у розныя бакі краіны. Трэба заўважыць, што яны ніколі не парвалі сувязей з бацькаўшчынай. Аб'яднаўшыся ў Таварыстве сяброў Кляшчэлеўскай зямлі, вяртаюцца пры кожнай нагодзе ў родны кут. І сёння, разам з аднавяскоўцамі і гасцямі, гулялі на беларускім фэсце і засядалі ў супольным застоллі.




Пра беларускае жыццё ў Амерыцы, дакладней, аб яго праявах у сусветным павуцінні „Ніва” пісала не аднойчы. На яе старонках давалася інфармацыя аб дзейнасці Беларуска-Амерыканскага задзіночання („Ніва” ад 14 сакавіка 2004 года), якое стаіць на нацыянальна-адраджэнскіх пазіцыях, а таксама аб людзях, што жывуць у Амерыцы і па-сутнасці з'яўляюцца праваднікамі ідэй лукашызму і цкавання нацыянальна свядомых беларусаў („Ніва” ад 18 лістапада 2010 года).

Але двума вышэйпазначанымі сайтамі расповеды аб жыцці беларусаў Амерыкі не абмяжоўваюцца. Пра друкаваныя іх выданні паведамляецца на сайце **www.e-krama.com**, які амерыканскія беларусы называюць „Нашай старонкай у Нью-Ёрку”. Старонка гэтая прадстаўляе Беларуска-Амерыканскае згуртаванне „Пагоня”, якое спрычынілася да выдання такіх СМІ як інфармацыйны бюлетэнь „Весткі і паведамленьні”, альманах „Беларус” і аднайменная газета.

Выгляд сайта даволі прываблівы: герб „Пагоня” і нью-йоркскі краявід нібыта дапаўняюць адзін аднаго, адразу абазначаючы і тэрытарыяльную прыналежнасць сайта, і яго ідэйную накіраванасць. Пад назвай месяцца выйсці на рубрыкі, якія дазваляюць нам атрымаць больш-менш поўную інфармацыю пра дзейнасць згуртавання.

Па ўсім відаць, сайт не так даўно з'явіўся ў інтэрнэце. Такую выснову можна зрабіць, зайшоўшы на старонку „Навіны”. Там знаходзіцца толькі адзін матэрыял, у якім распавядаецца пра травеньскі сход згуртавання. Адразу паўстае пытанне: няўжо за прайшоўшыя больш за два месяцы ў жыцці суполкі не адбылося нічога вартага расповеду на сайце згуртавання?

Рубрыка „Абвесткі” таксама не заўсёды абнаўляецца своечасова. Так, пра сход згуртавання, які меў адбыцца 14 ліпеня, няма ніякай інфармацыі, акрамя анонса мерапрыемства. Дарэчы, усіх абвестак у данай рубрыцы ўсяго толькі дзве.

Больш цікавымі падаюцца рубрыкі, дзе расказваецца пра вышэйзгаданыя друкаваныя выданні. У „Вестках і паведамленьнях” можна пабачыць аднайменны бюлетэнь ад студзеня 2011 года.

Альманах „Беларусь” месціць электронныя версіі выдання, пачынаючы з 2007 года. На старонцы, што прысвечана яму, таксама паведамляецца, што апошні, пяты па ліку, нумар літаратурнага альманаха „Беларус” за 2011 год выйшаў у свет у кастрычніку 2011 года. „На 240 старонках гэтага выданьня зьмешчаныя творы 19 беларускамоўных аўтараў, якія зараз жывуць у 10 краінах. Нагадваем, што зьмясьціць свае творы ў альманаху маглі тыя аўтары, якія жывуць па-за межамі Беларусі. Ёсьць сярод іх вядомыя пісьменнікі й паэты, але большасьць складаюць тыя, чые імёны пакуль мала вядомыя шырокаму колу чытачоў”, — рэкламуюць выданне сябры згуртавання „Пагоня”.

Што ж тычыцца архіва газеты „Беларус”, то ён, відаць, яшчэ далёкі да поўнага запаўнення. Пабачыць там можна толькі нумары за 2010 год. Пры тым першым пазначаным у архіве годам з'яўляецца 2002 год.

Для беларусаў Амерыкі, пэўна, адной з карысных рубрык з'яўляецца „Крама”. Там знаходзяцца беларускія кнігі, календары, маркі БНР, налепкі, паштоўкі, якія можна набыць у „Пагоні”. Акрамя таго ўладальнікі сайта паведамляюць, што праз іх можна аформіць падпіску на газеты і часопісы, што друкуюцца ў Беларусі.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

## БЕЛАРУСІ Скарбы

### Музей Луцкевіча

На віленскіх могілках Росы сярод пантэона розных беларускіх дзеячаў ёсць адно асаблівае пахаванне. Гэта сімвалічная магіла братоў Луцкевічаў — асоб, якія ў пачатку XX стагоддзя заклалі падмуркі нацыянальнага адраджэння, былі апосталамі беларускага руху ў той перыяд, які ўвайшоў у гісторыю як „нашаніўскі”. Абодва браты пайшлі з жыцця далёка ад Бацькаўшчыны. Іван Луцкевіч памёр пасля хваробы на сухоты ў Закапане, Антон Луцкевіч згінуў у савецкім канцлагеры ў Казахстане. У 1991 годзе адбылося сімвалічнае перапахаванне на Росах, пастаўлены сціплы помнік. Больш Луцкевічам ніякага ўшанавання нідзе няма: сучасная афіцыйная Беларусь не дбае пра нацыянальных герояў, а беларусы Вільні не ў змозе здзейсніць гэта матэрыяльна. Пра першы беларускі паўнавартасны музей, які стварылі ў нашай старадаўняй сталіцы Луцкевічы, нагадвае толькі будынак у Базыльянскіх мурах.

Калекцыі, якія былі сабраныя Іванам Луцкевічам, грунтаваліся не на пустым месцы. Збіраць экспанаты навуковец пачаў яшчэ ў канцы XIX стагоддзя, ужо тады ў яго былі асобнікі скарынаўскай Бібліі і Статута Вялікага Княства Літоўскага на старабеларускай мове, калекцыя слуцкіх паясоў, выпускі „Мужыцкай праўды” Кастуся Каліноўскага. Ідэалагічным падмуркам стаў віленскі музей старажытнасцей Тышкевічаў.

Пачаткам стварэння музея лічаць 1921 год. Менавіта тады калекцыі і зборы, якія некаторы час размяшчаліся ў памяшканнях газеты „Наша ніва”, былі перавезены ў будынак пры базыльянскім кляштары ў самым сэрцы горада. Яшчэ перад смерцю Іван Луцкевіч завяшчаў каштоўнасці створанаму ім у 1918 годзе Беларускаму навуковаму таварыству. Экспанаты былі размешчаны ў пяці пакоях, па суседску працавала Беларуская гімназія. Узначальваў музей Антон Луцкевіч, яго рупліўцамі былі таксама Мар'ян Пецюкевіч, Янка Шутовіч, Уладас Дрэма. Само таварыства фактычна было знішчана бальшавіцкай уладай, яго сябры зазналі рэпрэсіі, але музей перажыў сваіх апекуноў. Яго дзейнасць у міжваенны перыяд была вялікай асветніцкай справай, якая фармавала цэлае пакаленне беларусаў, людзей, што ведаюць сваю багатую мінуўшчыну. Гэты асяродак з багатай на той час бібліятэкай і архівам спрыяў і стварэнню айчыннай акадэмічнай навукі.

Канчаткова музей імя Луцкевіча быў зліквідаваны саветамі ў 1945 годзе. Скончылася жахлівая вайна, але для беларусаў пачыналася чарговая хваля русіфікацыі і знішчэння нацыянальных каштоўнасцей — нязменная палітыка Масквы, якая цягнецца ўжо стагоддзямі. Большая частка нашага першага яскрава нацыянальнага музея, у тым ліку рукапісныя кнігі і старадрукі, калекцыі слуцкіх паясоў, іншыя ўнікальныя і дарагія экспанаты, засталася ў Літоўскай Рэспубліцы. Амаль увесь архіў дакументаў трапіў у Акадэмічную бібліятэку новастворанай паўночнай рэспублікі. Невялікая частка збораў трапіла ў савецкую Беларусь. Дзе яна знаходзіцца зараз ведаюць хіба толькі адмыслоўцы.

Мне давялося сустракацца і размаўляць з сотнямі музейнікаў розных гарадоў і мясцовасцей. Сярод іх былі вельмі розныя людзі — апантаныя энтузіясты і абыякавыя „научные сотрудники”, шчырыя беларускія адраджэнцы і выразныя праваднікі чужога. Праца музейніка па вялікім рахунку заўсёды была няўдзячнай, у гісторыі застаюцца адзінкавыя прозвішчы збіральнікаў старасветчыны. У іх пераліку імя Івана Луцкевіча стаіць адным з першых.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# На „Бандароўскай гасцёўні” ўспаміналі паэта Алеся Барскага

Дзейнасць чалавека і культура грамадства — непадзельнае, адзінае. Усё, што складае веліч чалавека, вяршыні яго думкі і ўсведамленне прыгажосці свету не знікае бясследна. Яно пераходзіць у спадчыну нашчадкам і ўзбагачае іх духоўна. Такому менавіта ўзбагачэнню служаць беларускія фэсты, у тым ліку і „Бандароўская гасцёўня”, у якой склалася ўжо свая гісторыя.

Фэст на пасёлку ў Бандарах мае ўжо 12-гадовую традыцыю. Праходзіць ён у вельмі маляўнічай мясцовасці Міхалоўскай гміны. Раней падобныя фэсты адбываліся ў суседніх Рыбаках. Галоўным іх арганізатарам выступаў неабыякавы да свайго роднага, вялікі энтузіяст сваёй малой айчыны Кастусь Хлябіч, родам з Рыбакоў. Гэтую традыцыю цяпер працягваюць яго родзічы, але ўжо на пасёлку Бандары.

Сёлета ў дзень фэсту, хаця надвор'е не распешчвала, яго арганізатары не звярталі ўвагі на пахмурнае неба. Твары ўдзельнікаў фэсту і гасцей свяціліся ўсмешкамі, а кожная ўсмешка, быццам маленькае сонейка, саргравала душы і сэрцы.

Беларускія фэсты — сімвал яднання двух народаў. Прымаюць у ім удзел беларусы і палякі, улюбёныя ў сваю зямлю, гісторыю і культуру. Менавіта тут пачынаеш разумець, што ніякія моўныя бар'еры не перашкаджаюць жыць у сяброўстве.

На беларускім фэсце „Бандароўская гасцёўня” заўсёды пануе радасць і добразычлівасць. Гэтым разам мерапрыемства ўдастоілі консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку Таццяна Нікалаёнак, дырэктар Культурнага цэнтра Беларусі ў Варшаве Аляксандр Карачун, радны Ваяводскага сейміка ў Беластоку Мікалай Яноўскі. Фэст адкрылі і выступілі з прамовамі бурмістр Міхалова Марк Назарка, старшыня ГП БГКТ Ян Сычэўскі і солтыс Бандароў Марыя Грыка. Фэст складалі блок спартыўна-рэкрэацыйных імпрэз, уручэнне сцяга Добраахвотнай пажарнай камандзе ў Бандарах, якая сёлета святкуе 50-гадовы юбілей, і канцэрт. На сцэне „Бандароўскай гасцёўні” выступілі салісты з Гміннага асяродка культуры ў Міхалове, калектывы „Расспяваны Гарадок”, „Світанак” з Беластока, „Васілёчкі” з Бельска-Падляшскага, „Тройка” з Міхалова, „Грамніцы” з Мінска і „Прымакі” з Міхалова.

Вельмі мяне ўзрадавала вяртанне на сцэну „Тройкі” — калектыву, які бліскуча, пад бурныя апладысменты публікі, выступіў з беларускім рэпертуарам. А сталася гэта дзякуючы персанальным зменам у кіраўніцтве Гміннага асяродка культуры ў Міхалове, якім зараз кіруе сімпатычная і вопытная Альжбета Паліноўская. Аздобай вечара было выступленне знакамітага мінскага калектыву „Грамінцы”.

У нашай малой айчыне шмат таленавітых паэтаў. Арганізатары фэстаў павінны іх абавязкова запрашаць да ўдзелу ў мерапрыемствах. Іх прысутнасць — вельмі дарагі падарунак усім нам, беларусам, якія не цураюцца роднай мовы. Многія ўдзельнікі фэсту пыталіся ў мяне, чаму няма паэтаў, чаму нельга купіць кніжак, пагутарыць з аўтарамі. Адказ на гэтае пытанне даў мне па тэлефоне Віктар Швед. „Мяне і астатніх беларускі паэтаў, маіх калег, галоўны арганізатар не запрашае. Пра фэст у Бандарах, які адбыўся 21 ліпеня, я пачуў толькі ад цябе, Віктар”. Сумная, горкая як палын праўда аб нашых чыноўніках...

Хаця на „Бандароўскую гасцёўню” калектыў „Цаглінкі” са Старога Ляўкова не быў запрошаны, але члены калектыву падрыхтавалі верш аб фэсце, якога зачытаць публіцы не ўдалося (думаю, што тыднёвік „Ніва” надрукуе яго на сваіх старонках; на шчасце тут месца хапае ўсім). У конкурсе на найлепшы верш аб „Бандароўскай гасцёўні” ўдзел прынялі калектывы „Цаглінкі”, „Грамніцы” і „Світанак”. Перамаглі „Цаглінкі” з вершам „Фэст на радзіме паэта”, на другім месцы апынуліся „Грамніцы”, а на трэцім — „Світанак”. Дзякуем вам „Цаглінкі” за памяць і пашану для нашага беларускага паэта Алеся Барскага, якога згадваеце ў сваім вершы.

**Віктар БУРА**

http://www.gokmichalowo.pl

## Фэст на радзіме паэта

*Фэст на радзіме паэта Алеся,*
*Ліпень, гуляе трава.*
*Ад водару ранетаў*
*Кружыцца галава.*

*Дзетак выводзіць бусліха —*
*Днямі ў буслянцы адна...*
*А тут у летнюю суботу*
*«Гасцёўня» зноў у Бандарах.*

*Хоць і бяда не мінае*
*Вёсачкі гэтай святой,*
*Мы земляка ўспамінаем*
*І песень ягоных настрой.*

*Не! Тут не ўсё яшчэ апета.*
*Душаў людскіх не суняць!*
*Фэсты на радзіме Алеся Барскага.*
*Дванаццаты ўжо раз звіняць.*

*Бандароўская Гасцёўня,*
*21.07.2012 г.*

# Адгаданка

| | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | | | | | 2 | | | |
| | | 3 | | | | | | | 4 | 5 | | |
| | | | 6 | | | | | 7 | | | | |
| | | 8 | | | | 9 | | 10 | | | | |
| 11 | | | | | | 12 | | | | | | |

1. квадратны корань з дзевяці, 2. паўднёвая суседка Турцыі, 3. стукач, 4. ядавіты парашок для знішчэння шкодных насякомых, 5. сігнальная прылада ў тэлефоне або ў школе, 6. усходнеазіяцкае збожжа, 7. адкідны на плечы галаўны ўбор, 8. праекцыя прадмета ад сонца, 9. тыдзень пасля Вербніцы, 10. старажытнарымская мантыя, 11. агароджа з пераплеценых тонкіх галін, 12. спорт Вікторыі Азаранка.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — іспанская прыказка.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 27 нумара**

Алея, віна, ліпа, стаў, сэтэр, тата, Ясы.

Рашэнне: **Я — атэіст, але я праваслаўны атэіст** (фраза Аляксандра Лукашэнкі).

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал і **Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока.

# 05.08 — 11.08

**(22.03. — 20.04.)** Пачатак тыдня добры для адпачынку з сям'ёй, падарожжа ці ўвогуле прыемнага правядзення часу. Наведаць тваю галаву можа мноства каштоўных ідэй, якія рэалізуй не адзін. Пад канец тыдня могуць панізіцца твае эмацыянальныя сілы і схочацца пабыць у адзіноце.

**(21.04. — 21.05.)** Час праўдзі найлепш у цішыні, падумай аб глабальных і драбнейшых справах. У першай палове тыдня можа перад табою адкрыцца многае, у тым ліку аб людзях, якіх лічыш блізкімі знаёмымі. Магчымыя перамены ў асабістым жыцці; прыслухоўвайся да сваёй інтуіцыі і абмяркоўвай здарэнні.

**(22.05. — 22.06.)** У спачатку тыдня выбух пачуццяў, эмацыянальны ўздым, які крыху прытрымай, бо выразіцца можа ён па-рознаму. Кіруйся розумам і не ацэньвай „спадабалася — не спадабалася”. Прытрымлівайся нейтральнай пазіцыі, захавай раўнавагу і памяркоўнасць.

**(23.06. — 23.07.)** Добра ідуць справы з паправай матэрыяльнага становішча. Паявяцца новыя магчымасці і задумкі, якія ўдасца табе зрэалізаваць, што досыць хутка прынясе табе прыбытак. Да ўсяго падыходзь асцярожна і з аглядкай. Ёсць рызыка разысціся ў поглядах як з іншымі, так і з самім сабою, што ў далейшым можа прынесці шкоду.

**(24.07. — 23.08.)** Можаш спрабаваць перамяніць выгляд свайго жыцця. Не займайся справамі іншых. Не давай парад, бо абвінавацяць цябе ў сваіх промахах і стратах. У аўторак уважліва пералічвай рэшту. Пры канцы тыдня рамантычныя сустрэчы. Сядаючы на крэсла ў пятніцу, правер яго трываласць!

**(24.08. — 23.09.)** Спакойна можаш правесці тыдзень, калі звядзеш сваю дзейнасць да мінімуму і дазволіш сабе адпачыць, насалодзіцца тым, што ўжо зрабіў і не брацца за новыя справы. На працы таксама магчымы нейкі застой, некантактнасць з калегамі. Можаш паменшыць лік кантактаў у гэтым тыдні.

**(24.09. — 23.10.)** Калі ўзнікне якая-небудзь складаная сітуацыя, пусці ўсё на самацёк, усё найлепш вырашыцца сваёй чаргой. Трэба будзе лепш стрымаць сваю ганарлівасць — дэманстрацыя прымірэнства можа прынесці выгаду. У панядзелак прыйдуць табе ў галаву добрыя ідэі дзеля ўласнага ўзбагачэння; не рэалізуй усяго адразу. Але не ўдзельнічай у латарэях!

**(24.10. — 22.11.)** Да канца тыдня можаш прыйсці да вывадаў і рашэнняў, якія могуць цябе сур'ёзна расчараваць, а ў некаторых выпадках нават расстроіць. Не ўдавайся ў эмоцыі, вазьмі сябе ў рукі! Частка тваіх сіл пойдзе на роздумы над жыццём, пошукі праўды, планаванне і іншыя інтэлектуальныя заданні. На жаль, некаторыя вывады не ўцешаць, асабліва калі гаворка пра асабістае жыццё. Падумай над тым, каб палепшыць сітуацыю.

**(23.11. — 22.12.)** Спадарожнічае табе поспех у фінансавых і матэрыяльных пытаннях, калі будзеш гатовы рызыкнуць. Добры час для абменных аперацый, продажу і куплі, маніпуляцый з грашыма. Можаш даць выклік лёсу з прыкметнай выгадай для сябе. Пад канец тыдня ўзмацняй рэзультат і адмоўся ад лішняй актыўнасці, спакойна і паслядоўна працуй.

**(23.12. — 20.01.)** Пабуджэнне і нецярплівасць, з якімі будзеш прабіваць нейкую ідэю, канчаткова могуць прынесці табе сур'ёзныя страты, асабліва калі маеш дачыненне да вялікіх сродкаў. Асабліва пільнуй сваіх грошай, не перадавай іх у чужыя рукі. У пятніцу паявіцца цудоўны шанц паказаць сябе.

**(21.01. — 19.02.)** Адзін з найлепшых тыдняў месяца. Не адмоўся атрымаць каштоўную параду ці павучэнне — гэтыя веды будуць вельмі карыснымі (могуць яны заключацца нават у плётках ці думках іншых людзей). Будзеш мець магчымасць заявіць аб сабе і адстойваць свае інтарэсы.

**(20.02. — 21.03.)** Рушыш з пабудовай грандыёзных планаў. Добра пойдуць падарожжы, камандзіроўкі і іншыя дзеянні, накіраваныя на пашырэнне тваіх уплываў. Перад табою адчынены ўсе дзверы і напрамкі, пачні толькі свой рух.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Termin przyjmowania wpłat do 5-go dnia każdego miesiąca poprzedzającego okres rozpoczęcia prenumeraty.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „RUCH” i „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Cena prenumeraty kwartalnej: I kwartał — 32,5 zł., II kwartał — 32,5 zł., III kwartał — 35,0 zł., IV kwartał — 32,5 zł., rocznej — 132,5 zł.
**Prenumerata z wysyłką za granicę**
Wpłaty przyjmuje „RUCH” S.A. ul. Annopol 17a, 03-236 Warszawa; telefony: +48(22) 69-36-775, +48(22) 69-36-782, +48(22) 69-36-718; www.ruch.pol.pl
**Prenumerata w redakcji**
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2012 roku — 53.
**Przesyłka zwykła:** Cena 1 egz. wraz z wysyłką w kraju wynosi 4,2 zł.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# Вечар чатырох культур

Тэкст і фота
Іаанны ЧАБАН

З 12 па 22 ліпеня Крынкі традыцыйна ўжо адзначылі свае свята, якое ад некалькіх гадоў праходзіць пад лозунгам „Вечар чатырох культур”. Паводле слоў арганізатара мерапрыемства, дырэктар Крынскага дома культуры Альжбеты Чарэмхі ідэя вечара чатырох культур нарадзілася гадоў дзесяць таму ў думках тагачаснага, а заадно і цяперашняга бурмістра горада Багуслава Панасюка. Менавіта ён загадаў планаваць галоўнае крынскае мерапрыемства ў духу мясцовай шматкультурнасці. У першых выпусках новай формулы святкаванняў непалякаў на крынскай сцэне прадстаўляў „Цымэс” — капэла, якая іграла клезмерскую і цыганскую музыку. Канцэртная праграма паступова пашыралася, пераходзячы з аднаго вечара ў трохдзённае гулянне.


Беларусы з „Сугучча”

— У нас завязаліся вельмі моцныя кантакты з артыстамі з Беларусі, — тлумачыць Альжбета Чарэмха. — Больш за дзесяць гадоў рэгулярна да нашага дома культуры прыязджаюць гродзенскія педагогі, якія не толькі выдатна павышаюць узровень мясцовага музычнага выхавання, але таксама знаёмяць нас з артыстычнай сцэнай Беларусі. Дзякуючы менавіта Лілі Жылінскай і Інэсе Кур’янавай мы наладзілі стасункі з музычнымі адукацыйнымі ўстановамі Гародні і Мінска. У гэтым годзе да нас прыехала многа выдатных артыстаў з беларускай сталіцы, рэкамендаваных тамтэйшай музычнай акадэміяй.

Групай, якая ўвяла крынскую публіку ў клімат сусветных джаз-кафэ быў мінскі „Джы-Бі-Бэнд”. Музыканты ачаравалі слухачоў высокім узроўнем вакальнай і інструментальнай інтэрпрэтацыі джазавых шлягераў, а таксама сваім густоўным, вонкавым іміджам, стылізаваным на пачатку XX стагоддзя. Калектыў гэты не ўпершыню прэзентаваўся перад мясцовай публікай. Як сказала яго музычны кіраўнік Любоў Косач, джы-бі-бэндаўцы — гэта людзі розных прафесій: інжынеры, доктары, эканамісты з музычнай адукацыяй, якіх аб’ядноўвае любоў да джаза. Па статусе калектыў лічыцца аматарскім, але ўзроўнем і амбіцыямі дасягае прафесіяналаў. У іх часта мяняецца праграма і склад. Нядаўна адышоў саліст, які толькі што закончыў акадэмію мастацтваў і ўладкаваўся на працу ў тэатры. У Крынкі яны прыехалі з новай, выдатнай спявачкай Святланай Рымашэўскай. Калектыў пакуль знаходзіцца ў пошуках свайго канкрэтнага музычнага напрамку. Вядуцца музычныя эксперыменты з джаз-рокам і блюзам. У планах ёсць таксама фольк — джазавая папулярызацыя роднай культуры. Спадзяюцца, што ў наступным годзе змогуць захапіць крынчан менавіта беларускімі фольк-джазавымі кампазіцыямі. Галоўным стымулам мастацкага развіцця калектыву з’яўляецца ацэнка і адабрэнне публікі. У Мінску іх слухаюць у джазклубе, рэстаранах і на адкрытых пляцоўках.

У суботняй частцы крынскай канцэртнай праграмы прагучаў маладзёжны рок у выкананні мінскіх калектываў „Іронія” і „Браўн шугар”. Былі таксама і мясцовыя выканаўцы: хор польскай патрыятычнай песні „Погодна есень”, рок-гурт „Но нейм”, захавальнікі роднай культурнай спадчыны, інструментальна-вакальны дуэт „Зараніца” і беластоцка-крынскі рок-гурт „Акустык рум”.

Завітала тут таксама кабарэ „То і ово” з Саколкі. Пенсіянеры, адзетыя ў стылізаваныя на народную вопратку касцюмы, паказалі жартоўныя бытавыя сцэнкі на беларускай і польскай мовах, пераплененыя папулярнымі, беларускімі



Маладыя клезмеры з Беластока

песнямі. У калектыве, апрача выхадцаў з падсакольскага Янава, Слойнікаў, Куроўшчыны, Камёнкі, удзельнічае таксама сапраўдная кашубка, якую можна распазнаць па традыцыйнай, паморскай кашулі з сіняй вышыўкай. Ёсць там таксама пару добрых гарманістаў і баяністаў — галоўных герояў колішніх, вясковых танцаў і вяселляў. Як сказала кіраўнік калектыву Аліцыя Ткачук, кабарэ існуе ўжо пяць гадоў:

— Пачаткова мы дзейнічалі нефармальна, але цяпер перайшлі пад апеку ўніверсітэта трэцяга веку. У асноўным займаемся рэалізацыяй розных культурных і сацыяльных праектаў. Апошнім часам вывучаем тэму „Зберагчы ад забыцця”, на базе якой паўстаў сцэнарый прадстаўленага крынскай публіцы сюжэта. Цяпер вяртанне да каранёў стала вельмі модным, таму мы рашылі зберагчы простую мову, паказаць як калісьці ў нас размаўлялі, спявалі, як усё тут адбывалася. Мы выходзім на лавачку, гутарым, жартуем, крыху па-польску, крыху па-просту. Маналогі, якія паяўляюцца ў нашым кабарэ, паходзяць з родных вёсак выканаўцаў. Я занялася мантажом і падборам песень, між іншым перыяду маёй янаўскай моладасці. Вядома, гэтую даўнюю, простую мову вельмі кепска ўспрымалі, сорамна было ёю карыстацца. Хачу падкрэсліць, што гэта не беларуская, а польская мова, такая спеўная падляшская гаворка. Мы таксама ўмеем гаварыць „следзікем по-бялостоцку”.

У нядзелю шматлікая крынская публіка апладзіравала безумоўным зоркам крынскай эстрады — жанчынам з калектыву польскай сучаснай песні „Эксіт”. На сцэне паявіліся таксама сакольскі „Твістэр” і „Трыо акорд” з Чорнай-Беластоцкай. Міхалоўскія дзяўчаты з калектыву „Сінгерс” запрэзентавалі папулярную сусветную эстраду, а іхнія сябры з „Гард-Гоку” захапілі крынскіх рокераў вельмі моцнымі гукамі шматлікіх электрычных гітар.

Са слоўна-музычна-танцавальным мантажом запрэзентаваўся калектыў беларускай песні „Сугучча” з Гародні. Жанчыны часта ўпрыгожваюць сваім сцэнічным майстэрствам крынскія мерапрыемствы. У гэты раз іх выступленне праходзіла ў дзвюх частках, розных па рэпертуары і вопратцы. Сваёй харызмай і падборам народных песень гараднянкі захапілі многіх гледачоў, якія, пачуўшы блізкія сэрцу мелодыі, пайшлі ў танцы.

Гародню прадстаўляў таксама вядомы ў Крынках дзіцячы інструментальны калектыў з Сярэдняй школы № 18.

Вечар чатырох культур не абышоўся без татараў, якіх танцам, спевам і арыгінальнай народнай вопраткай прадстаўляла Зіля Ібафуліна — артыстка з Башкірыі.

Цвіком нядзельнай канцэртнай праграмы быў выхад на сцэну дзяцей з беластоцкага калектыву „Янг фольк кр’ю”, які дзейнічае пры Цэнтры Людвіка Заменгофа пад кіраўніцтвам Леха Мазурка. Старыя і сучасныя яўрэйскія песні здаваліся быць вельмі зразумелымі і блізкімі сэрцам маладых выканаўцаў. Яны паказалі нешта больш чым спеў. Іх выступленне можна назваць перажываннем спецыфічнай мелодыкі і глыбокага сэнсу тэкстаў. Маладыя выканаўцы вялі сябе на сцэне надзвычай упэўнена, быццам на ёй і нарадзіліся, а пачалі яны сваю кар’еру ў 2009 годзе. На сённяшні дзень у калектыве займаецца шаснаццаць дзяцей. Нядаўна маладыя выканаўцы мелі гонар выступіць перад сур’ёзнай публікай VII Фестывалю клезмерскай музыкі і традыцыі ў Казімежы-Дольным, дзе сваім канцэртам выклікалі сур’ёзную сенсацыю. У складзе калектыву выступае дзяўчынка Лера, якая спявае беларускія песні. Вывучылі яны і пару ромскіх твораў, але ўсё-такі найбольш цікавяць іх клезмерскія кліматы.

— Многа ў нас беларускіх ці ўкраінскіх маладых спевакоў, але клезмерскіх, апрача нашага, не знойдзеш, — кажа Лех Мазурэк.

Незвычайны калектыў збіраецца запісаць свой першы дыск. Пакуль можна іх пачуць на мерапрыемствах, ладжаных Цэнтрам Людвіка Заменгофа, і на навакольных фэстах.

Апрача канцэртаў і гульняў да белага ранку, у святочныя дні ахвотныя крынчане маглі прыняць удзел у шматлікіх спартыўных і рыбацкіх спаборніцтвах. Гасцям мерапрыемства былі падрыхтаваны цікавыя выстаўкі, пра якія распавяла галоўная арганізатарка свята Альжбета Чарэмха:

— Мы захацелі паказаць старыя, крынскія фатаграфіі, невядомыя па змесце, рашылі заахвоціць гледачоў, каб самі распазнавалі і падпісвалі вядомыя ім месцы і людзей. Фотавыстаўка карысталася вялікім зацікаўленнем, большасць экспазіцыі ўжо ідэнтыфікаваная. Паказалі мы таксама аматарскія фотаздымкі крынчаніна Марціна Бельскага, захопленага мясцовай прыродай. У планах быў таксама паказ творчасці рукадзельнікаў з Беларусі. На жаль, з-за візавых праблем гэты пункт святочнай праграмы не здзейсніўся. Сёлетняе мерапрыемства было фінансаванае нашым асяродкам культуры і Гмінная управай горада Крынкі. Матэрыяльны ўклад унеслі таксама прадпрыемства „Крынка”, Сакольская лакальная група дзеяння „Татарскі шлях”, мясцовыя крамы Ірэны Жыўлюк, Галены Міклашэвіч, Анны Фанфары і Анны Бельскай. Дапамог таксама асяродак культуры ў Міхалове, з якім мы наладзілі супрацоўніцтва. Наш калектыў „Эксіт” ужо гатовіцца да выступаў на міхалоўскай сцэне з нагоды набліжаючагася „Свята грыба”.

ISSN 0546-1960